№ 37 (730) 5 кастрычніка 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штот

## Беларусы мяняюць сваё стаўленне да сэксу

Гутарка з сэксолагам Васілём Шаўляковым. Старонка 15.



# Дзмітрый Ус: Буду на Народным сходзе

1 кастрычніка экс-кандыдат у прэзідэнты **выйшаў на волю**. Старонка 3.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Тэндэнцыі

## Магілёўцы запатрабавалі знізіць цэны на 20%.

Пад лістом **Міхаілу Мясніковічу** падпісаліся больш як 100 чалавек.

«У беларускіх СМІ кіраўнік дзяржавы, ідэолагі абрадавалі грамадзян, што рубель у дачыненні да даляра ўмацаваўся на 20%», — гаворыцца ў лісце.

«Мы, грамадзяне Беларусі — пенсіянеры, ветэраны працы і Вялікай Айчыннай вайны, рабочыя і служачыя, члены БРСМ і «Белай Русі» — патрабуем знізіць на 20% усе цэны на прадукты і прамтавары, на медыцынскія і бытавыя паслугі, на лекі, праезд у грамадскім транспарце і камунальныя паслугі, а таксама на бензін», — напісалі магілёўцы.

Адказ на зварот аўтары просяць накіраваць заказным лістом на адрас ініцыятара акцыі, актывіста прафсаюза РЭП А. Паўлоўскага.

**БелаПАН**

Спорт

### Колькі зарабляюць спартоўцы?

Ці заслугоўваюць яны зарабляць у сотні разоў болей, чым сярэднестатыстычныя грамадзяне. **Старонка 9.**

Не быць скотам

### Суседзі адбілі Анатоля Лябедзьку

Не пашкадавалі для гэтага нават «Лексус». **Старонка 4.**



Грамадства

### «Дажынкі»: рэпартаж з «забароненага горада»

Каго туды не пускалі? **Старонка 6.**



Здарэнні

### Першакурсніца загінула пад коламі BMW

Ёй не было і 18-ці. **Старонка 10.**



Гісторыя

### Патаемнае спачуванне ад Лукашэнкі

Пра Сямдзянаву і кіраўніка краіны піша Сяргей Навумчык. **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# За Нобелеўскую прэмію Бяляцкаму

У Аргкамітэт увайшлі **Сурвіла, Аляксеева, Міхайлаў, Крэймер** — усяго 29 асобаў.

Рашэнне пра гэта абвясцілі праваабаронца Валянцін Стэфановіч, старшыня БАЖ Жанна Літвіна і кіраўнік Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, якія таксама далучыліся да ініцыятыўнай групы. Сярод удзельнікаў Аргкамітэта — расійская праваабаронца Людміла Аляксеева, старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, рэктар ЕГУ Анатоль Міхайлаў.

Што важна для кампаніі падтрымкі, да Аргкамітэта



**Намінаваць могуць дэпутаты парламентаў, лаўрэаты мінулых гадоў і прафесары палітычных навук.**

далучыліся кіраўнікі найбуйнейшых міжнародных фондаў, у тым ліку скандынаўскіх праваабарончых арганізацый — патэнцыйных лабістаў.

У спісе стаяць імёны кіраўніка Freedom House Дэйвіда Крэймера, Нацыянальнага фонду ў падтрымку дэмакратыі Карла Гершмана, кіраўніцы Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Сухэйр Белхасэн. А таксама генеральнага сакратара Нарвежскага Хельсінскага камітэта Б'ёрна Энгесланда.

Алесь Бяляцкі збіраў на свае рахункі грошы для падтрымкі рэпрэсаваных. Лукашэнкаўцы арыштавалі яго, звінавацілі ў няспраце падаткаў. Ён застаецца ў турме, а на ягоную маёмасць накладзены арышт.

Валянцін Стэфановіч прагназуе, што суд над Бяляцкім можа адбыцца ўжо ў кастрычніку. Бяляцкі скончыў знаёміцца з матэрыяламі справы.

Непасрэдна намінаваць на прэмію могуць толькі некалькі канкрэтных катэгорый людзей: дэпутаты парламентаў, лаўрэаты мінулых гадоў і прафесары палітычных навук універсітэтаў. Менавіта на гэтых людзей будзе скіравана далейшая дзейнасць Аргкамітэта, падкрэсліў Аляксандр Мілінкевіч.

Вылучэнне павінна адбыцца да канца студзеня 2012 года, а пасля таго Аргкамітэт мае правесці кампанію ў падтрымку. Ужо запланаваны слуханні ў нарвежскім парламенце. Менавіта пяць дэпутатаў стортынга ад розных фракцый прымаюць рашэнне пра лаўрэата.

Ужо чатыры былыя лаўрэаты Нобелеўскай прэміі міру заявілі пра сваю гатоўнасць вылучыць Бяляцкага.

**Мікола Бугай**

**Павароты лёсу: Алесь Бяляцкі мог абраць сабе іншую жыццёвую дарогу**

Бяляцкі працаваў школьным настаўнікам у Лельчыцкім раёне. Таленавітага хлопца заўважылі і запрасілі ў Мінск. У 28 гадоў Алеся на конкурснай аснове абралі дырэктарам Музея Багдановіча... Чытайце на nn.by.

# Эскадроны страху

**Рабаўнікі забралі** ў Валерыя Ухналёва 12 тысяч даляраў.

«Гэта зрабілі маральныя выродкі, рабаўнікі ведалі, што Ухналёў вёз грошы на лекі жонцы», — пракаментаваў сітуацыю паплечнік камуніста Ухналёва Сяргей Калякін.

Інцыдэнт адбыўся ў суботу ноччу на трасе Вільня — Мінск, каля вёскі Вялікая Дайнава Валожынскага раёна. Машыну спыніў чалавек у форме міліцыянта. Пасля гэтага Ухналёва скруцілі амбалы без формы.

«Я гэта адназначна звязваю з маёй палітычнай дзейнасцю. Гэта зроблена для запалохвання», — заявіў Ухналёў.

Міліцыя завяла справу, але ніколі раней у падобных сітуацыях нікога не знаходзілі. Паводле словаў Анатоля Лябедзькі, дзейнічаюць «эскадроны страху».



Ухналёў падупаў духам. Ягоная жонка лечыцца ад раку, і гэтыя грошы назбіралі на яе лячэнне еўрапейскія калегі па левым руху.

**МБ**

**Калякін: Гэта зрабілі маральныя выradкі. Ведалі ж, што Ухналёў вёз грошы на лекі жонцы.**

# Калі вам не заплацілі 500 тысяч

**Паведамляйце пра памылку**, і атрымаеце ў кастрычніку.

У Рэдакцыю масава звяртаюцца чытачы, якія не змаглі атрымаць 500 тысяч рублёў. Яны скардзяцца, што іх няма ў спісах.

У сувязі з гэтым нагадаем некалькі момантаў.

**Хто налічвае грошы**

Аднаразовую дапамогу выплачвае тая ж установа, якая налічвае пенсію/заробак. Калі вас з нейкіх прычын не ўключылі ў спіс, звяртацца трэба туды.

**Дзе атрымаць грошы**

Матэрыяльная дапамога будзе налічаная па месцы атрымання пенсіі (у выпадку з пенсіянерамі) і заробку (для бюджэтнікаў, якія працуюць).

Калі пенсіянер атрымлівае пенсію ў банку, то 500 тысяч яму налічаць на рахунак. Калі на пошце, то там жа і налічаць дапамогу на гародніну. Пенсіянеры, якім пенсію прыносяць на дом, таксама жа чынам атрымаюць і дапамогу.

**На 500 тысяч не могуць прэтэндаваць**

— пенсіянеры, якія працуюць (атрымаюць па месцы працы, калі яны бюджэтнікі),
— асобы на дзяржзабеспячэнні,
— салдаты тэрміновай службы,
— зняволеныя.

Калі вы ёсць у спісе, але з нейкіх прычын не паспелі атрымаць дапамогу ў верасні, такая магчымасць у вас захоўваецца ў кастрычніку, гарантуюць у Міністэрстве працы і сацабароны.

**Сямён Печанко**



**Сцісла**

**Рубель пайшоў уніз**

Амерыканская валюта падаражэла на біржы да 7650 рублёў, а ў абменніках — да 7700. Кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова мяркуе, што нейкі час курс зможа пратрымацца на цяперашнім узроўні. «Але хутчэй за ўсё ў кастрычніку прыйдзецца рабіць інтэрвенцыі, каб не даваць рэзкага скачка даляра наверх», — прызналася яна **(старонка 4)**. Новае аслабленне рубля можа быць звязана як з павышэннем тарыфнай стаўкі першага разраду, так і з зацяжкаю прыватызацыйных перамоваў.

**У мінскім метро «працавалі» марадзёры**

Пра гэта паведамілі ў судзе параненых падчас тэракта **Андрэй Цішкевіч.** Скралі, у прыватнасці, і ягоны кашалёк з пасведчаннем.

**«За ўчынак, несумяшчальны са знаходжаннем на дзяржслужбе»**

З такой фармулёўкай Уладзімір Карпук вызвалены з пасады дырэктара Дэпартамента па геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў, паведамляе БелТА. Што гэта за ўчынак, не паведамляецца. З такой самай фармулёўкай у 2008 годзе з БТ звольнілі Юрыя Азаронка. Тады прычынай было п'янства.

**І на «масавае бяздзеянне» трэба дазвол**

Палата прадстаўнікоў прыняла папраўкі ў «Закон аб масавых мерапрыемствах». Папраўкі былі распрацаваныя пасля летніх маўклівых акцыяў пратэсту. Зараз дазвол трэба браць не толькі на масавыя дзеянні, але і на масавую бяздзейнасць.

**Галаванаў у адстаўцы**

Віктар Галаванаў вызвалены ад пасады міністра юстыцыі. В.а. прызначаны Аляксандр Білейчык.

**СГ**

**Самае чытанае на nn.by за 28 верасня — 4 кастрычніка**

1. Рэпартаж з «забароненага горада»
2. Дзмітрый Ус выйшаў на волю
3. Onliner.by: Як просты хлопец прыдумаў другі па папулярнасці сайт Беларусі
4. Лукашэнка ездзіць на «блатных» нумарах + фота
5. Маці Рамана Пратасевіча: «Палітыка тут ні пры чым»
6. «Ляпісы» пад бел-чырвона-белымі сцягамі сабралі аншлаг у Маскве
7. Фотафакт: На «Дажынках» усlаўляюць Кацярыну II, «якая здзейсніла мару — захапіла Беларусь»
8. Рэйтынг Лукашэнкі ўпаў да рэкордна нізкага ўзроўню
9. Патаемнае спачуванне ад Лукашэнкі
10. Пад Столінам рыбак зlавіў гіганцкага сома: 51,5 кг, 2 метры

# Віктар Івашкевіч: Да Народнага сходу гатовыя

Гэта будзе першая **вялікая акцыя апазіцыі** ўвосень.

Адзін з арганізатараў акцыі 8 кастрычніка Віктар Івашкевіч адзначае, што з падрыхтоўкай да сходу «ўсё ідзе нармальна».

Інфармацыя ў значнай ступені ўжо распаўсюджана. Цяпер ініцыятары накіроўваюць запрашэнні прыняць удзел у сходзе прадстаўнікам улады, каб «яны выступілі перад людзьмі». Адказаў, праўда, не было. Толькі ў Магілёве галоўны ідэолаг папярэдзіў, каб гэта сапраўды быў сход, а не мітынг.

Івашкевіч не выключае, што ўлады будуць «паскудзіць». Паводле ягонай інфармацыі, «кіраўнікі не атрымалі канкрэтных указанняў адносна сваіх паводзінаў».

Нібыта і масавых рэпрэсій не будзе, але не будуць і падтрымліваць. Кіруюцца хутчэй прынцыпам: «так»/«не» не гаварыць.

Па словах Віктара, пры падрыхтоўцы да Народнага сходу на яго арганізатараў не было нейкага надзвычайнага ціску. Ён называе толькі інцыдэнт з біццём шыбаў у мінскім офісе Беларускага прафсаюза работнікаў РЭП (аднаго з арганізатараў сходу). Асобныя рэпрэсіі зведалі валанцёры ў рэгіёнах.

У той жа час, па інфармацыі Івашкевіча, на прадпрыемствах ідэалагічныя работнікі страшаць людзей тым, што на сходзе будзе весціся відэаздымка.

«Адсутнасць рэпрэсій звязана з тым, што арганізатары выбралі такую форму сходу, з якой цяжка паспрачацца», — кажа Івашкевіч.

У Мінску Народны сход пройдзе ў парку Дружбы народаў на плошчы Бангалор у 13.00. Ніякіх агульных шэсцяў не плануецца.

Зазначаецца, што акцыі пройдуць легальна. Сходы будуць праводзіцца адпаведна закону «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах».

Сярод галоўных патрабаванняў: спыненне росту цэнаў, павышэнне заробкаў і пенсій, рассакрэчванне прэзідэнцкага фонду.

Цікава, што за тыдзень да сходу Аляксандр Лукашэнка абвесціў пра павышэнне тарыфнай стаўкі першага разраду на 28%. Гэтае першае за год павышэнне зарплат пасля месяцаў шалёнага росту цэнаў можна лічыць першым дасягненнем Народнага сходу. Можна меркаваць, што эфект ад сходу будзе залежаць ад яго шматлюднасці.

**Кастусь Матушыч**

**Наступны Народны сход — 12 лістапада**

На ім плануецца абмеркаваць рэакцыю ўладаў на рэзалюцыі, якія будуць ухвалены 8 кастрычніка.

**Таксама Народныя сходы пройдуць**

**Салігорск** — стадыён «Будаўнік»

**Барысаў** — гарадскі стадыён

**Вілейка** — гарадская танцпляцоўка

**Смалявічы** — школьны стадыён на вуліцы Жодзінскай

**Жодзіна** — стадыён каля дома №7 (вул.Ф.Скарыны)

**Слуцк** — двор па вуліцы А.Чэхава №29—31

**Гарадскі пасёлак Свіслач** — у двары дома №29 па вуліцы Партызанскай

**Гродна** — стадыён «Нёман»

**Ліда** — гарадскі стадыён

**Слонім** — гарадскі парк

**Віцебск** — вул.Б.Хмяльніцкага, д. 2—4

**Орша** — гарадскі стадыён

**Дзісна** — летняя пляцоўка ля філіяла банка

**Полацк** — пляцоўка ля кінатэатра «Радзіма»

**Наваполацк** — пляцоўка ля гарадскога Дома культуры

**Магілёў** — вул.Чалюскінцаў, 64В, стадыён

**Бабруйск** — вул.М.Горкага, 6, ля гандлёвага цэнтра «Вестэрн»

**Гомель** — пляцоўка ля палаца культуры «Віпра»

**Рэчыца** — сцэнічная пляцоўка ў парку «Перамога»

**Рагачоў** — сцэнічная пляцоўка ў Парку піянераў

**Мазыр** — стадыён «Спартак»

**Жлобін** — парк «Прыдняпроўскі»

**Светлагорск** — сцэнічная пляцоўка гарадскога парку

**Брэст** — Парк воінаў-інтэрнацыяналістаў

**Бяроза** — гарадскі цэнтральны стадыён

**Баранавічы** — Стары парк

**Кобрын** — пляцоўка каля школы зімніх відаў спорту




Сходы будуць праводзіцца адпаведна закону «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах».

**Кіраўнік прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Генадзь Фядыніч не сумняваецца, што на Народны сход прыйдзе шмат людзей.**

PHOTO BYMEDIA.NET

## Дзмітрый Ус: Буду на Народным сходзе

Кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус **вышаў на волю** 1 кастрычніка.

Ён памілаваны ўказам Лукашэнкі. Ніякага прашэння на імя кіраўніка дзяржавы Ус не пісаў.

У той момант Ус знаходзіўся ў лякарні СІЗА на Валадарскага. Дзяжурны сказаў, каб кандыдат збіраў рэчы. А сёмай гадзіне яго выпусцілі за вароты.

Агулам Дзмітрый Ус адсядзеў крыху болей за чатыры месяцы з пяці гадоў, што даў яму суд. Ус стаў дванаццаць пятым памілаваным палітвязнем за апошнія месяцы.

За кратамі ўсё яшчэ знаходзяцца кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саннікаў і Мікола Статкевіч, каардынатар «Хартыі-97» Зміцер Бандарэнка, сустаршыня БХД Павел Севярынец, праваабаронца Алесь Бяляцкі, прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, маладафронтаўцы Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў, анархісты.

Іх вызваленне дабіваецца Еўрасаюз. Толькі пры гэтай умове ЕС згодны пачаць размаўляць з беларускай уладай.

**«Наша Ніва»: Дзмітрый Іванавіч, як здароўе?**

**Дзмітрый Ус:** Ды не сказаў бы, каб турма здароўе падарвала. Нармальна ўсё. Толькі ціск трохху скача.

**«НН»: Цяжка было прыняць прысуд — пяць гадоў турмы?**

**ДУ:** Нас абвінавацілі па сфабрыкаванай справе. Потым тупа пасадзілі. Палітыка нашага правадыра грунтуецца на запалохванні людзей і хлусні. Цяпер буду рабіць усё, каб іншыя вязні таксама былі на волі.

**«НН»: Не адмаўляецеся ад сваёй ідэі змяніць выбарчае заканадаўства?**

**ДУ:** Не. Рыхтую ініцыятыўную групу па зборы подпісаў. Праца ідзе. Скажу, што ініцыятыва можа стартаваць у бліжэйшыя месяцы.

**«НН»: На парламенцкія выбары пойдзеце?**

**ДУ:** Будзе залежыць ад таго, ці ўнясуць змены ў выбарчае заканадаўства. Удзельнічаць па сённяшніх правілах проста няма сэнсу.

**«НН»: На Народным сходзе будзеце?**

**ДУ:** Буду. Арганізатары пакуль на мяне не выходзілі, каб я там выступіў ці нешта падобнае.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Дзмітрый Ус у турэмнай робе, але дома. Ад сваёй ідэі ён не адступаецца.**

PHOTO BYMEDIA.NET

## Рэйтынг Лукашэнкі ўпаў да рэкордна нізкага ўзроўню

Ці давяраеце Вы прэзідэнту Беларусі?




Толькі 24,5% апытаных у верасні Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў давяраюць дзейнаму кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку. У снежні 2010-га, паводле звестак таго ж інстытута, Лукашэнку давяралі 55% апытаных.

Прагаласавалі б за Лукашэнку сёння яшчэ менш: толькі 20,5% апытаных. У той жа час 28% людзей кажуць пра сябе, што яны «ў апазіцыі да цяперашняй улады».

**Мікола Бугай**

# Дзевяць мільярдаў у абмен на лібералізацыю

**У Варшаве прайшоў другі саміт «Усходняга партнёрства».**

### У процівагу Расіі

Гэтая праграма Еўрасаюза стартавала тры гады таму. Яе «хроснымі бацькамі» былі Польшча і Швецыя. Асаблівы імпульс у развіцці «Усходняе партнёрства» атрымала пасля расійска-грузінскай вайны. Еўрапейцы вырашылі, што постсавецкія краіны нельга пакідаць сам-насам з Расіяй.

З нашай краінай справы заўсёды былі больш складаныя. «Усходняе партнёрства» пачыналася яшчэ ў той момант, калі многія мінскія чыноўнікі былі невыязнымі ў краіны Еўрасаюза, а за кратамі сядзеў Аляксандр Казулін.

Як бы там ні было, але вырашалі, што пакідаць Беларусь убаку непрыгожа. Лукашэнка на першы саміт у Прагу не паехаў, краіну там рэпрэзентаваў віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка.

### Няспраўджаныя надзеі

У той час на «Усходняе партнёрства» сапраўды было вялікае спадзяванне як на альтэрнатыву Расіі. Але некаторыя людзі ўспрымалі гэтую ідэю занадта спрошчана. Інструменты «Партнёрства» — ускосныя, але яны дазваляюць палітычным і гаспадарчым элітам збліжацца. У той жа час «грошай» у «Партнёрстве» не «дзеляць».

Бюджэт «Усходняга партнёрства» на 2010—2013 гады на шэсць краінудзельніц складае ўсяго толькі 600 мільёнаў еўра. Гэта пры тым, што толькі замежная пазыка Беларусі дасягнула 34 мільярдаў даляраў. Для той жа Малдовы сродкі, атрыманыя праз «УП», — гэта кропля ў моры. Нашмат болей яны атрымліваюць па іншых праграмах.




Дональд Туск (другі справа) абвяшчае пра «пакет прапановаў» для Беларусі.

**Сікорскі — Лукашэнку: Вашы адносіны з Еўропай будуць такімі ж, якімі будуць вашы адносіны з людзьмі.**

Аналітык польскага інстытута замежных справаў Лукаш Адамскі мяркуе, што сёняшняя праграма — гэта максімум таго, што можа прапанаваць Еўропа.

### Гайсёнка на саміце не пакармілі

Прадстаўляць Беларусь у Варшаве мусіў міністр Сяргей Мартынаў. Нават праграмкі адмысловыя выйшлі з ягоным партрэтам. Тым не менш, афіцыйны Мінск вырашыў надаць форуму крыху скандальнае адценне.

Дэлегацыю на саміце ў Варшаве ўзначаліў пасол Гайсёнак. Такі дэмарш беларусаў многім не спадабаўся. Было прынятае хутчэй сімвалічнае рашэнне не запрашаць Гайсёнка на вячэру. Беларусь увогуле адмовілася ад удзелу ў саміце. Тым не менш, з самой праграмы краіна не выходзіла.

### Моцны сігнал

Беларусь не бачыць вялікай зацікаўленасці ва «Усходнім партнёрстве». «Была б зацікаўленасць, калі б былі прэферэнцыі», — кажа сп.Лукаш Адамскі.

Хай і не ў рамках «Усходняга партнёрства», але грошы Беларусі паабяцалі. На выніковай прэсканферэнцыі ў пятніцу прэм'ерміністр Польшчы Дональд Туск абвясціў пра «пакет прапановаў» для Беларусі. У выніку выканання пунктаў з яго Беларусь можа разлічваць на 9 мільярдаў даляраў праз сусветныя банкі.

Афіцыйнаму Мінску, каб атрымаць гэтыя выгоды, прапануецца вызваліць і рэабілітаваць палітвязняў, пачаць дыялог улады з апазіцыяй, вольныя парламенцкія выбары. Перад выбарамі, калі ў краіне не было дзясяткаў палітвязняў, Лукашэнку прапаноўвалі 3 мільярды, цяпер — дзевяць.

«Маё пасланне да прэзідэнта Лукашэнкі наступнае: вашы адносіны з Еўропай будуць такімі ж, якімі будуць вашы адносіны з людзьмі. Пакуль людзі ў Беларусі будуць падвяргацца рэпрэсіям, паглыбленыя адносіны з Еўрасаюзам, а тым больш эканамічная дапамога, не будуць магчымыя», — заявіў міністр замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі.

### Без дэкларацыі

Невялікай перамогай беларускай дыпламатыі можна лічыць непрынятую рэзалюцыю па нашай краіне. Кіраўнікам дзяржаваў, што ўваходзяць ва «Усходняе партнёрства», прапанавалі падпісаць дакумент, што крытыкуе стан з правамі чалавека ў Беларусі. Тым не менш, усе яны адмовіліся гэта зрабіць.

Лукашэнка па выніках саміта падзякаваў Саакашвілі і Аліеву, а вось палякаў і немцаў бэсціў. «Ім няймецца», — выгукаў Лукашэнка.

На ягоную думку, палякі мараць вярнуць сабе Заходнюю Беларусь. Хоць Польшча нідзе такога пытання не ставіла. Тым не менш, прапанова дзевяці мільярдаў выглядае досыць прывабнай. На наступны дзень пасля скончэння саміта на волі ўжо быў экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус.

**Зміцер Панкавец, Варшава — Мінск**

# Саміт «Усходняга партнёрства» вачыма Анатоля Лябедзькі

**У адсутнасць афіцыйнай дэлегацыі на саміце Беларусь прадстаўляла апазіцыя.**

Даўно яе прадстаўнікі не мелі настолькі насычанай праграмы сустрэч з вядучымі палітыкамі Еўропы.

Вось якія ўражанні ад спатканняў пакідаў у сваім Фэйсбуку лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.



Анатоль Лябедзька (крайні злева) расказвае Ангеле Меркель аб беларускай сітуацыі.

«Сяргей Калякін і Радаслаў Сікорскі, гледзячы па знешнім выглядзе, купляюць гальштукі і кашулі ў адным буціку».

«Адчуванні пасля сустрэчы з старшынёй Камітэта па правах чалавека Рады Еўропы Хамарсбергам. Некаторыя калегі хочуць гаварыць. Менш хочуць слухаць. І зусім мала прагнуць пачуць тых, хто побач».

«Туск — разумнік, Рампей — малайчына. Прэм'ер Польшчы заявіў: нічога больш разумнага за трохкрокавую стратэгію я не ведаю. Крок першы — вызваленне палітвязняў. Другі — вольныя выбары. Трэці — эканамічная і фінансавая дапамога Беларусі».

«Засядзеліся мы, аднак, з Ангелай [Меркель — «НН»]. Замест запланаваных 25 хвілін, паўтары гадзіны размовы. А час у канцлеркі ФРГ не танны. За гэты час, седзячы побач, разглядзеў вочы Меркель. Яны вельмі добрыя, з дадаткамі суму. І што яшчэ вылучаецца, дык гэта прастасць. У адзенні, аксесуарах, размове».

«Сустрэча з Фюле: энергічна, канкрэтна, прадметна. У сярэдзіне лістапада еўракамісар плануе быць у Мінску».

**ЗП**

## Суседзі не пашкадавалі «Лексуса», каб адбіць апазіцыянера

**Па вяртанні з Польшчы ў Мінск Анатоль Лябедзька адразу адчуў усе «радасці» беларускіх рэалій.**

Раніцай у суботу ён разам з жонкай прыехаў дадому з аэрапорта. У двары па вуліцы Лесі Украінкі палітыка ўжо чакалі людзі ў цывільным.

«Гэта было доўгае супрацьстаянне. Мне парвалі куртку, джынсы. На руках ёсць сінякі», — расказвае старшыня АГП.

Найбольш парадавала Лябедзьку рэакцыя суседзяў, якія сталі яго абараняць. «Адзін перакрыў выезд сваім «Лексусам», не пашкадаваў машыны, астатнія вялі здымкі на тэлефон. Яны ж выклікалі міліцыянтаў, прыехалі людзі ў форме», — расказвае палітык. Не заставалася ўбаку і жонка Анатоля Святлана, якая спрабавала адбіць мужа ад агентаў без формы.

У выніку Лябедзька паехаў у пастарунак з людзьмі ў форме. У міліцыі цікавіліся, як ён перасякае межы, калі пашпарт Лябедзькі яшчэ са снежня знаходзіцца ў КДБ.

**ЗП**

# Хто купіў Мінск?

**Ладуцька** не дарабіў сваю справу, але **можа сысці** ўжо хутка.




Кіраўніцтву Мінгарвынкама на чале са старшынёй Мікалаем Ладуцькам пагражае звальненне. «Што датычыць усяго будаўнічага комплексу, пракантралюйце: усе павінны быць «выразаны», пачынаючы ад Нікіціна і заканчваючы сакратарамі. І барані бог, вы мне не даложыце праз тыдзень аб прыняцці гэтых мер. Вінаваты Радаман — значыць, і з ім разбірайцеся», — даручыў Аляксандр Лукашэнка. Гаворка вядзецца пра галоўнага архітэктара Мінска Віктара Нікіціна і намесніка старшыні Мінгарвыканкама Сяргея Радамана. Асноўная прэтэнзія да чыноўнікаў заключаецца ў тым, што з дзясяткаў інвестыцыйных праектаў рэалізуюцца толькі некаторыя. «Шчыра скажу, тэмп і якасць рэалізацыі большасці самых значных інвестпраектаў мяне не задавальняюць. Увод у эксплуатацыю ў вызначаныя тэрміны шэрагу аб'ектаў пад пагрозай зрыву», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Ладуцька пераконваў кіраўніка дзяржавы ў адваротным: маўляў, у сталіцы цяпер рэалізуюцца 268 інвестыцыйных праектаў. Найбольшыя грошы плануецца атрымаць ад партнёраў з Ірана, Кіпра, Расіі, Кітая і Аўстрыі.

Час кіравання Ладуцькі, які прыйшоў на пасаду выконваючага абавязкі старшыні Мінгарвыканкама ў 2009 годзе, сапраўды адметны безліччу падпісаных інвестыцыйных пагадненняў. Яшчэ падчас кіравання ягонага папярэдніка, Міхаіла Паўлава, замежнікі атрымлівалі ў карыстанне цэлыя кварталы, але менавіта пры Ладуцьку справа набыла сапраўдны размах. Падчас яго прыходу да мінскай улады тут будаваліся толькі расіяне, кітайцы і прадстаўнікі ААЭ. Цяпер геаграфія пашырылася, але ў які бок?

«Наша Ніва» нагадвае, каму з замежнікаў ужо дасталіся ласыя кавалкі Мінска.

1. **Расія.** Усходні сусед нацэліўся на самыя дарагія праекты, але ці зможа адолець іх? Наўрад ці. Некаторыя, як раён «Ржавец», ужо перадалі кітайцам.

Тым не менш, шматмільярдны «Мінск-Сіці» нібыта пачынае будавацца менавіта за грошы расійскай «Ітэры». Тая ж кампанія стварае і комплекс хмарачосаў каля станцыі метро «Фрунзенская», які пакуль уяўляе сабой толькі адзін недароблены будынак.

Адзін паўнавартасны расійскі квартал ужо ёсць. «Маскоўскі», які складаецца з некалькіх жылых высотак, пачаў узводзіцца яшчэ калі мэрам Масквы быў Юрый Лужкоў. Пасля ягонага сыходу з пасады беларуска-расійскае архітэктурнае супрацоўніцтва замарудзілася, але не спынілася.

2. **Кітай.** Супрацоўніцтва з азіятамі пачалося нядаўна, але мае вялікія перспектывы. Кітайцы з першых дзён узяліся за працу. Гэта датычыць вышэйназванага раёна «Ржавец» непадалёку ад прэзідэнцкіх Драздоў і, вядома ж, «Чайнатаўна» і гатэля ў рэчышчы Свіслачы.

3. **Аман.** Квартал гэтай краіны быў анансаваны адным з першых, але пакуль так і не дачакаўся хоць нейкага ўвасаблення. Аманцы, якія атрымалі прэстыжную зямлю каля Оперы ледзь не задарма, пакуль не пачалі будавацца. Тэрыторыя, на якой зараз знаходзіцца комплекс «Белэкспа», не ачышчаная, а бальніца па суседстве не перасяленая.

4. **Ліван.** Прадстаўнікі яшчэ адной краіны з азіяцкага рэгіёна таксама прыгледзеліся да старога цэнтра горада. Насупраць Палаца спорту адзін за адным маюць з'явіцца хмарачос і забаўляльны комплекс, якія будуць належаць ліванцам, хоць і розным. «Роял Плаза» будуецца на грошы кампаніі «Ліван Рубіраз Інтэрнэшнл», а комплекс на месцы інтэрната БДУ аплаціць УП «А.А.Касар».

5. **Катар.** Гасцініцу са спартыўным комплексам, якія з'явяцца на праспекце Пераможцаў у Мінску каля футбольнага манежа, сабраліся будаваць за кошт інвестыцыйнага фонду Узброеных сіл Катара (нашай арміі бы такі!). Пагадненне было падпісана літаральна некалькі месяцаў таму.

6. **Сірыя.** Гатэль «Кемпінскі» з прылеглымі будынкамі ўзводзіцца каля цырка. Інвестарскія грошы фармальна адносяцца да Швейцарыі, але імя ўладальніка — Ід Самаві — прымушае сумнявацца ў гэтым. Насамрэч сусветная сетка гатэляў належыць сірыйцам.

7. **Літва.** Наконт сродкаў, за якія меўся будавацца стадыён «Трактар» і шматфункцыяльны спартыўны комплекс, сумненняў няма. Грошы належаць літоўскаму бізнэсоўцу Уладзіміру Раманаву. Вось толькі праект, анансаваны некалькі гадоў таму, наўрад ці будзе рэалізаваны. Кожны наступны год робіць імавернасць усё меншай. Беларусь даўно знікла са сферы інтарэсаў літоўца.

Спіс краінаў, пералічаных вышэй, выглядае надзвычай дзіўна. Гэта азіяты, кампанія якіх разбаўлена расіянамі і адным літоўцам, які застаецца ў пераліку хутчэй па добрай памяці. Шматмільённыя кантракты з многімі з інвестараў так і не становяцца рэальнасцю, таму і кожнае новае пагадненне — з ААЭ, Ліванам ці Катарам — успрымаецца мінчукамі з непрыхаванай іроніяй. Але застаецца пытанне, ці ёсць у гэтым віна Ладуцькі і яго каманды, калі большасць кантрактаў заключаецца ў абыход Мінгарвыканкама на прэзідэнцкім узроўні?

**Ягор Марціновіч**

## Рубель перастаў узмацняцца. Ці пойдзе адкат назад?

**Ермакова:** «Нейкі час мы зможам пратрымацца».

Курс даляра, які падаў на працягу двух тыдняў, спыніўся на адзнацы 7630 рублёў. Кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова мяркуе, што нейкі час курс зможа пратрымацца на цяперашнім узроўні. «Але хутчэй за ўсё ў кастрычніку прыйдзецца рабіць інтэрвенцыі, каб не даваць рэзкага скачка даляра наверх», — прызналася яна. Гэта значыцца, што Нацбанк пачне траціць золатавалютныя рэзервы, каб збіваць курс. Грошы на падтрыманне курса ёсць, хоць і няшмат. За апошні час Нацбанку ўдалося купіць на таргах больш за $100 мільёнаў. Апроч таго, з'явілася інфармацыя і аб новых крэдытах. У прыватнасці, Беларусь мае намер пазычыць грошы ад Ірана на $400 мільёнаў. Апроч таго, прынята рашэнне ўзяць $1 мільярд пад заставу акцый «Нафтана».

Ермакова прызнае, што сітуацыя далёкая ад стабільнасці. «Сёлета ў выніку таго, што павялічыўся попыт на замежную валюту, золатавалютныя рэзервы знізіліся да рызыкоўных, крытычных памераў, — сказала Ермакова. — Сёння мы не маем тых запасаў, якія павінны быць у эканоміцы, якія б забяспечвалі бязрызыкавае жыццё або дзейнасць эканомікі».

Тым часам нацбанкаўскі курс даляра дасягнуў 5 704 рублёў. Розніца паміж курсамі Нацбанка і дадатковай сесіі на валютнай біржы складае яшчэ 34%.

**ЯМ**

## Прымаць ванну стане раскошай

Улады **вылічылі нарматыў** выкарыстання вады.

Беларускія ўлады вызначылі, колькі вады можа выкарыстоўваць беларус, каб не плаціць лішнія грошы. Гэта 140 літраў на чалавека ў суткі. Усё, што дадаткова выльецца з крана, будзе ацэньвацца па большым тарыфе. Такім чынам, першыя 4,2 кубаметра за месяц на чалавека будуць каштаваць 3 740 рублёў, а наступныя — па 2550 рублёў за кубаметр.

Перарасход атрымаецца перадусім ва ўладальнікаў кватэр, у якіх пражываюць незарэгістраваныя жыльцы. Нават калі разам жывуць сямёра чалавек, а зарэгістраваны з іх па гэтым адрасе толькі адзін, нарматыў будзе складаць 4,2 кубаметра.

Варта памятаць, што лічыльнікі не правяраюцца кантралюючымі службамі штомесяц. Калі ў нейкім месяцы адбудзецца перарасход вады, у жыльцоў застаецца магчымасць паведаміць пра максімальны «льготны» паказчык і ашчадзіць ваду ў будучыні, не заплаціўшы лішніх грошай.

**ЯМ**

### Сцісла

**Зноў падаражэлі цыгарэты**

З 2 кастрычніка на 8 —38% павысіліся рознічныя цэны на імпартныя цыгарэты. Напрыклад, элітны Dunhill цяпер каштуе 15 000 рублёў.

**Бензін падаражэў яшчэ на 5%**

З пачатку года гэта ўжо восьмы рост цэнаў. Цяпер яны дасягнулі ўзроўню, з якога Лукашэнка вяртаў цэны назад пасля пратэстаў аўтамабілістаў.

**«Валюта па пашпартах» адклалася да лістапада**

Электронная сістэма ўліку куплі валюты з 1 кастрычніка так і не запрацавала. Яна мае з'явіцца праз месяц.

**ЯМ**

# Рэпартаж з «забароненага горада»

Карэспандэнт «НН» шукаў **на «Дажынках» ў Маладзечне**, што такога нельга было здымаць фота- і відэаапаратурай з аб’ектывам звыш 4 см.

Ранішняя электрычка на Маладзечна. На пероне купка жанчын з валізкамі, абмяркоўваюць першы дзень «Дажынак». «Учора зрабілі са свята палітыку. Прыехаў Лукашэнка, дык людзей нікуды не пускалі: ні з магазінаў, ні са сваіх дамоў. Усё перакрылі, усіх трэсліправяралі», — кажа адна. Другая спадзяецца, што сёння будзе вальней.

Паўнюткі вагон, які ўсю дарогу гудзеў як вулей, сціхае, утаропіўшыся ў вокны. На пероне ў Маладзечне пуста, на кожным з выхадаў у горад і да вакзала стаяць спецназаўцы ў крапавых берэтах з дубінкамі і металашукальнікамі. «Зараз будуць трэсці нас, як тых замежнікаў на мытні», — жартуе нехта. Абышлося.

Іду ў цэнтр насустрач ветру, які даносіць абрыўкі музыкі і пах шашлыку. І тут чакае неспадзяванка.

«З такім фотаапаратам я вас не магу прапусціць. І ніхто вас не прапусціць за турнікеты», — кажа мне міліцыянт. Запытаў, з якой нагоды такі загад. Той паціснуў плячыма.

Прызнаюся, я чуў пра забарону праходзіць у «рэжымную зону» з фота- і відэаапаратурай з аб’ектывам звыш 4 см. Але пры гэтым гаварылася, што абмежаванні датычаць толькі першага дня святкавання, калі на ім будзе прысутнічаць Лукашэнка.

Спачатку раззлаваўся і ледзь не з’ехаў з «гасціннай» сталіцы сёлетніх дажынак. Але цікаўнасць узяла верх — вырашыў на свае вочы, бачыць, што тут такога нельга здымаць «фотаапаратам з аб’ектывам звыш 4 см». Давялося ісці ў камеру захоўвання.

«Панастроілі дварцоў, а хто ў іх гуляць будзе?»



На «Дажынках» было ўсё: і хлебаробы, і байкеры, і чыпаліна.




На «Дажынках» услаўлялі Кацярыну II, «якая здзейсніла мару — захапіла Беларусь».

**Лагойскае райспажыўтаварыства прывезла ў Маладзечна рэстаран «Імператрыца».**

Кліентаў у рэстаран заваблівалі неадназначным рэкламным тэкстам. Ім прапаноўвалі «акунуцца ў перыяд, калі Кацярыне II удалося здзейсніць мару расійскіх цароў і захапіць тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага (ў тым ліку і Беларусь)». Рэстаран абяцаў «атмасферу раскошы і вытанчанасці багацця і высакароднасці «Кацярынінскай эпохі».

### «Императрица» і «Товарищ»

Першае, што прыцягвае ўвагу ў «забароненым горадзе», — колькасць міліцыянтаў. Здаецца, дагэтуль на «мірных» масавых мерапрыемствах, кшталту дажынак ці сярэднявечных фэстаў, у такой колькасці мне іх бачыць не даводзілася.

На кожным рагу, у парку, каля амфітэатра. Па двое, па трое і болей. «Як у канцлагеры», — абуралася бабуля, зашпіляючы торбу пасля нагляду на ўваходзе ў «рэжымную зону».

Іду ў цэнтр. Трапляю ў шэраг кавярняў і рэстаранаў у каланіяльным стылі, над якімі пануе перайменаваны з «Радзімы» ў «Родину» кінатэатр. Чэрвеньскае райспажыўтаварыства прывезла ў Маладзечна рэстаран «Товарищ», аздоблены муляжом апарата з газіроўкай, выявай гарбатага «Запарожца», савецкіх касманаўтаў і лозунгамі часоў СССР.

Смалявіцкі рэстаран «Победа» заваблівaў кліентаў савецкай гарматай. Назвы вызваленых Кіева і Львова тут напісаныя паўкраінску, затое Мінск у іх — Минск. Але ўсіх пераплюнула Лагойскае райспажыўтаварыства. Яго рэстаран «Императрица» прапануе сваім кліентам «акунуцца ў перыяд, калі Кацярыне II удалося здзейсніць мару расійскіх цароў і захапіць тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага (ў тым ліку і Беларусь)».

Бярэзінская страўня «Беларуская хата», дарма што рэкламуе навязлыя на зубах чарку і шкварку, радуе вока беларускай мовай і стравамі. «І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!» — нясуцца мне ўслед спевы Ярмоленкі.

### «Як дыхну, то адразу на 15 сутак!»

Першыя і самыя доўгія чэргі ў ранішнім Маладзечне з’яўляюцца каля палатак мясакамбінатаў.

Непадалёку стаіць міліцэйскі аўтобус, побач з ім праходзіць акцыя «Зберажы сабе здароўе». Міліцыянт прапануе ўсім ахвочым скарыстацца алкатэстарам ды спецыяльнымі акулярамі, начапіўшы якія, на свет пачынаеш глядзець вачыма чалавека, які выпіў пляшку гарэлкі. «Здаровая пячонка!» — агучвае ён вынікі тэста мажнага мужчыны, які вызваўся добраахвотнікам. Натоўп ухвальна гудзе, ахвочых пратэсціраваць сябе большае.

«Калян, а ты не хочаш дыхнуць?» — з ухмылкай пытае сябра загарэлы дзяцюк. Той катэгарычна адмаўляецца: «Я ад учарашняга не адышоў. Як дыхну, то адразу на 15 сутак!»

Каля скульптурнай кампазіцыі «Папараць-кветка» сабраўся натоўп. Дарма група жыхароў горада праймалася за «адкрыта сексагенна-эратычны характар» скульптуры — ахвочых сфатаграфавацца каля аголенай парачкі хапае. Не ўтрымалася і маладая пара, якая пабралася шлюбам на «Дажынкі».

### У Ганцавічах было, як на дажынках

Парад пераможцаў жніва і проста ўдзельнікаў праходзіць праз жывы калідор з жыхароў горада. Некаторыя не хаваюць, што сюды прыйшлі не па сваёй волі. Іх раздражняе, што ў гэты час іх вальнейшыя знаёмыя даўно ядуць шашлык і п’юць гарэлку.

Аднымі з першых ідуць сябры магчымай лукашэнкаўскай партыі, а пакуль грамадскага аб’яднання «Белая Русь». Пад аднайменную песню Анжалікі Агурбаш яны сыходзяць, пакідаючы па сабе сям-там на асфальце сцяжкі з сімволікай арганізацыі.

Следам ідуць аркестры, дадаючы святу хлебаробаў гарадскога шарму. А потым з’яўляюцца байкеры.

На сувенірнай вуліцы сустракаю гандляра беларускамоўнай прадукцыяй Уладзіміра Азёму. «Быў у Ганцавічах на Дні пісьменства. То там было, як тут цяпер. Такія самыя дажынкі», — кажа ён. Да нас падыходзіць габарытны мужчына. У ягонай куртцы шыпіць рацыя. Набывае дзіцячы фільм, дубляваны па-беларуску. «Дзеці мову вучаць у школе, але трэба, каб яшчэ і дома слухалі, як правільна яна гучыць», — тлумачыць ён.

На вакзале каля мясных палатак чэргі толькі выраслі. Тут самыя сур’ёзныя госці фэсту, яны амаль не ўсміхаюцца. Гавораць пра шалёныя цэны ды безграшоўе. А таксама пра паказуху і грошы на вецер («панастроілі дварцоў, а хто ў іх гуляць будзе?»).

Што ж такога было ў Маладзечне, каб з’явілася патрэба забараніць «сур’ёзныя» фотаапараты. Ды нічога такога. Свята як свята. Месцамі з элементамі трэшу ў афармленні — пластыкавыя свінні і плюшавыя каровы, бледныя як сама смерць манекены з сярпамі ў руках.

Думаецца, справа не ў свяце і не ў месцы, дзе яно праводзіцца. Праблема значна шырэй, чым 4-сантыметровы аб’ектыў фотакамеры.

**Сямён Печанко, Мінск—Маладзечна**



Крызіс хоць бы што. На «Дажынках» было дзе перакусіць.

**Фотафакт**




**Была «Радзіма», стала «Родина»**

Пасля падрыхтоўкі горада да «Дажынак» многія ўстановы **змянілі беларускамоўныя шыльды** на рускамоўныя.

Маладзечна, дзе за кіраўніцтвам Генадзя Карпенкі большасць установаў адукацыі набыла статус беларускамоўных, а горад пазбавіўся камуністычнай тапанімікі і пачаў ладзіць Фестываль беларускай песні і паэзіі, імкліва русіфікуецца, піша наш чытач з горада Дажынак-2011 Алесь Кшталтны. Беларускамоўная адукацыя засталася на паперы. З вуліц горада знікаюць беларускамоўныя шыльды і назвы, а змяняюць іх рускамоўныя.

# Раман Пратасевіч вярнуўся да бацькоў

Яны **больш не супраць** перакананняў сына.



«Памірыліся з бацькамі. У нечым я саступіў, у нечым яны. Усё вельмі добра цяпер. Спакойна», — сказаў юнак у размове з журналістам «НН».

У мінулым нумары мы пісалі пра 16-гадовага школьніка, які пакінуў сям'ю праз ідэйны канфлікт з бацькамі. Падставай стаў удзел Рамана ў маўклівай акцыі пратэсту. Па словах юнака, праз свае палітычныя перакананні яму давялося перайсці з Ліцэя БНТУ ў звычайную сярэднюю школу.

Наталля Пратасевіч, маці Рамана, перад вяртаннем сына расказала пра сутнасць канфлікту ў сям'і. Яна адзначыла, што непаразуменні з сынам узніклі перад маўклівай акцыяй 21 верасня. Раніцай яна з мужам адгаворвала сына ісці на мерапрыемства. Жанчына кажа: «Справа нават не ў тым, што я за кагосьці альбо супраць. А ў тым, што Раман яшчэ непаўналетні, ды і ўсе ведаюць, як людзі пры разгонах такіх акцый церпяць.» Але Раман сказаў, што ў любым выпадку пойдзе.

«Тут палітыка ні пры чым», — сказала Наталля. Але адзначыла, што спачатку Раман павінен атрымаць адукацыю, а пасля ўжо сам зробіць свой выбар. «Усё павінна быць законна. Дзеці не павінна займацца палітыкай. Гэтым павінны займацца дарослыя».

Яна кажа, што гатовая адправіць сына вучыцца ў ВНУ ў Польшчу, калі той так хоча. Але падкрэслівае, што толькі законным спосабам і пасля атрымання атэстата аб сярэдняй адукацыі. З СШ №94, куды Раман перайшоў з Ліцэя БНТУ, бацькі дакументы забралі. Па словах Наталлі, яны былі не да канца афармлены. Пакуль юнак у школу не ходзіць, бо не ведае, ці вернецца ў старую, ці пойдзе ў новую.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Дасць Бог, хутка ўсё скончыцца»

«НН» адшукала былога палітвязня **Андрэя Пазняка**.




**Андрэй Пазняк**

нарадзіўся ў 1977 у Жодзіне. Скончыў жодзінскі прафесійны ліцэй, на працягу 14 гадоў працаваў электраманцёрам на БелАЗе. Пасля Плошчы быў аштрафаваны на 30 базавых велічынь. Пазней асуджаны на два гады «хатняй хіміі» за ўдзел у так званых масавых беспарадках.

34-гадовы жодзінец Андрэй Пазняк за ўдзел у Плошчы быў асуджаны на два гады абмежавання волі без накіравання ў месцы адбыцця пакарання. Ён атрымаў самы «мяккі» прысуд па артыкуле «масавыя беспарадкі».

**«НН»: За чатыры месяцы пасля прысуда Вам не адмянілі яго?**

**АП:** Не адмянілі. Пісаў касацыйную скаргу. Цяпер пішу аглядную скаргу. Зменаў няма. Але буду ісці да канца.

**«НН»: Вы ведаеце, што на свабоду выйшлі амаль усе вязні па справе 19 снежня?**

**АП:** Ведаю. Амаль усе выйшлі, акрамя экс-кандыдатаў і тых, хто на «хіміі», як я.

**«НН»: Некаторыя з іх напісалі прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Вам не прапаноўвалі?**

**АП:** Не прапаноўвалі. І не думаю пра гэта. Лічу сябе невінаватым.

**«НН»: Што змянілася ў Вашым жыцці за гэты час?**

**АП:** Шмат чаго змянілася... Менш сустракаюся з бацькам, з дачкой. Ад маёй судзімасці больш пакутуюць сваякі, чым я. Бацька — пенсіянер, яму трэба дапамагаць. Але я не магу. Раз на тыдзень, у панядзелак, я з'яўляюся ў міліцыю. Ад 20.00 да 6.00 па буднях я павінен быць дома. Нельга выязджаць з горада. Выходныя павінен праводзіць таксама дома. Цяжка. Але, дасць Бог, хутка ўсё скончыцца. Хаця, безумоўна, яшчэ цяжэй тым, хто за кратамі.

**«НН»: Вашая 11-гадовая дачка ведала пра Ваш арышт ці хавалі ад яе праўду?**

**АП:** Ведала. Цяжка ёй было. Хвалявалася. Мяне як выпусцілі з залы суда, дык адразу да яе паехаў. У яе акурат у той дзень быў апошні званок у школе. Я прыехаў лысы. Аднакласнікі ў яе пытаюцца: «Твой тата з арміі прыйшоў?» А яна, разумніца, адказала, маўляў, спёка, таму я і пагаліўся налыса.

**«НН»: Да суда Вы працавалі на БЕЛАЗе. Вярнуліся туды?**

**АП:** Не. Мне прапаноўвалі, але я вырашыў, што не варта працаваць на дзяржпрадпрыемстве. Падумаў, што будзе цяжка. І ў любы момант могуць звольніць. Вырашыў, што трэба ўсё пачынаць з пачатку, з белага аркуша.

**«НН»: І дзе цяпер працуеце?**

**АП:** Электраманцёрам у прыватнай мінскай фірме. Таму з бацькам і дачкой складана бачыцца. Мая грамадзянская жонка таксама працуе ў сталіцы. Таму вырашылі застацца ў Мінску. Тут я і на ўліку ў міліцыі стаю.

**«НН»: Як Вашыя сябры паставіліся да судзімасці?**

**АП:** З'явілася яшчэ больш людзей, якія падтрымалі. Павялічылася кола знаёмых. Дзякуючы ім я і перанёс усё.

**«НН»: У былым Вы займаліся футболам. Цяпер з'яўляецеся заўзятарам клуба БАТЭ. Сачылі за гульнёй з «Барселонай»?**

**АП:** Безумоўна. На матч мне нельга было трапіць, але сядзеў перад тэлевізарам. Мой бацька ў былым старшы трэнер футбольнай каманды «Тарпеда» (Жодзіна), майстар спорту. І ў мяне яго кроў унутры.

**«НН»: Як ацэньваеце гульню?**

**АП:** Згулялі ў сваю сілу. Вынік быў прадказальны. Вопыт, канешне, атрымалі бясцэнны. Галоўнае, што здолелі прывезці да нас каманду сусветнага ўзроўню. Малайцы.

**«НН»: Шансы заняць не апошняе месца ў групе ёсць?**

**АП:** Шансы заўжды ёсць. Людзі спорту заўсёды гуляюць на перамогу. Таму паглядзім.

**Сяргей Макарэвіч**

# Саннікаў: «Ратуйце Дашкевіча любымі спосабамі. Інакш ён не выжыве!»

Пра гэта Андрэй Саннікаў заявіў 27 верасня на сустрэчы са сваім адвакатам. Яго словы перадала журналістам жонка Саннікава Ірына Халіп.

Саннікаў і лідар Маладога фронту Зміцер Дашкевіч сустракаліся 20 верасня ў віцебскім перасыльным пункце і ўтрымліваліся ў адной камеры.

Дашкевіча перавялі ў калонію Глыбокага, якая лічыцца адной з самых страшных у Беларусі.

Ёсць інфармацыя, што Дашкевіч знаходзіцца ў дрэнным стане: ён моцна схуднеў, але галадоўку, абвешчаную 13 верасня, спыніў. У сваім апошнім лісце на волю Дашкевіч піша: «Няма ні пачатку, ні канца гэтаму жаху, у якім я жыву апошнія месяцы. Аглядаюся назад і не разумею, як я ўсё гэта пераадолеў, і яшчэ менш разумею, як гэта можна пераадольваць болей?.. Гэтыя 9 месяцаў даліся мне як гадоў 9 катаргі».

**Мікола Бугай**

**Змітру Дашкевічу можна напісаць:**

В.к. №13 211791,
Віцебская вобласць,
г. Глыбокае,
вул. Савецкая, 205
Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

**Цяпер вельмі проста пасылаць і тэлеграмы:**

дастаткова патэлефанаваць з гарадскога на нумар 166 і прадыктаваць тэкст.



**Дашкевіч: Няма ні пачатку, ні канца гэтаму жаху, у якім я жыву апошнія месяцы. »**

## Сцісла

**Ператрус у Семенюка...**

29 верасня правяліператрус у кватэры актывіста партыі БНФ Сяргея Семенюка. Яго з Алесем Калітой і Максімам Губарэвічам вінавацяцца ў збіцці ахоўніка офіснага цэнтра, у якім месціцца новая сядзіба партыі БНФ.

**...і ў Малчанава**

Нагляд у былога палітвязня Аляксандра Малчанава праводзіўся з санкцыі пракурора, нібыта ў яго захоўваецца зброя. Нічога не было знойдзена. Аляксандр Малчанаў за ўдзел у падзеях Плошчы быў асуджаны на 3 гады турмы, але быў памілаваны.

**Звольнілі выкладчыкаў**

Звольнілі двух выкладчыкаў Беларускага інстытута праваназнаўства Андрэя Завадскага («Фонд Льва Сапегі») і Наталлю Васілевіч (Цэнтр «Экумена»). Ім не працягнулі працоўныя кантракты.

**КМ**

# Трэцякласнік моцна апёкся, дзяжурачы ў школьнай сталовай





«Такім мой сын пайшоў у 3 клас 1 верасня 2011 года. А такім — вярнуўся са школы 22 верасня», — піша Юрый Свірэпа.

**Даніла Свірэпа атрымаў апёк 3-й ступені гарачым супам.**

Пасля нашай публікацыі пра вываз «на бульбу» шасцікласнікаў у Рэдакцыю звярнуўся Юрый Свірэпа, бацька 9-гадовага Данілы, вучня 3 «Б» класа СШ №20 Брэста.

22 верасня з Данілам здарылася бяда: ён сутыкнуўся з кухаркай, якая несла гарачы суп. У выніку хлопчык атрымаў апёк 3-й ступені.

Выпадак з супам стаў падставай для напісання бацькамі Данілкі звароту ў Міністэрства адукацыі. У сваім пісьме сп.Свірэпа гаворыць пра набалелыя праблемы пачатковай школы.

Па-першае, непадушчальным з'яўляецца праца дзяцей да 14 год, у тым ліку ў школьных сталоўках. Па-другое, дзяцей ніхто не інструктуе наконт тэхнікі бяспекі. Як і не выдаецца спецыяльнае аддзенне для гэтага.

«У школе праца дзяцей у сталовай з'яўляецца даўно ўсталяванай практыкай. Пры гэтым дзеці, якія прыцягваюцца да працы, не маюць права на забеспячэнне і выкананне адміністрацыяй школы элементарных, прадугледжаных заканадаўствам, патрабаванняў бяспекі», — паведамляецца ў звароце.

З 2010 года ў школе, акрамя дзяцей, можа абедаць любы чалавек з вуліцы (дзеля чаго адвялі каля 10 сталоў). Колькасць сталоў для дзяцей пры гэтым зменшаная на чвэрць. Каб па-абедаць, дзеці павінны вельмі хутка накрыць, паесці і прыбраць за сабой для наступнай групы дзяцей. Пры гэтым такая рэч, як раздатачны паднос, у школьнай сталоўцы адсутнічае. І ўсе атрымліваюць набытую ежу проста ў талерках з адзінага раздатачнага стала.

На прыкладзе таго, што здарылася з яго сынам, Юрый Свірэпа хоча ўзняць праблему бяспекі дзяцей у пачатковай школе ў цэлым.

**Аксана Рудовіч**

# «Чаргавікі» змогуць прадаць атрыманы ўчастак толькі праз 8 гадоў

**Лукашэнка падпісаў указ, які рэгулюе атрыманне і адчужэнне зямельных надзелаў «чаргавікамі».**

У прыватнасці, з 1 студзеня 2012 года прадаць зямлю з размешчаным на ёй домам ці дачай можна будзе толькі праз 8 гадоў пасля ўвядзення жылля ў эксплуатацыю. Такім чынам, тыя землеўласнікі, якія планавалі здаць свае надзелы, мусяць паспяшацца з продажам. Іначай, каб атрымаць грошы за зямлю, давядзецца пачакаць 8 гадоў.

Са слоў намесніка старшыні Дзяржкамітэта па маёмасці Андрэя Гаева, адна з мэтаў указа — барацьба з «зямельнымі спекулянтамі».

На думку юрыста Мікіты Бяляева, да прыняцця дадзенага ўказа дзяржава давала добрую магчымасць зарабіць шляхам перапродажу зямлі, атрыманай, фактычна, задарма.

«Улічваючы, што рынкавая вартасць «соткі» ў Мінскім раёне складала ад 300 да 5000 долараў у залежнасці ад месца размяшчэння надзела, можна было рабіць добры бізнэс па-беларуску», — мяркуе эксперт. «Дзяржава пры гэтым грала ролю донарскай арганізацыі».

Што чакае звычайных грамадзянаў пасля ўвядзення ўказа?

1. Бясплатна соткі будуць даваць толькі шматдзетным сем'ям, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў.

2. Грамадзяне, якія стаяць на ўліку больш за 5 гадоў і не маюць ва ўласнасці аб'ектаў нерухомасці, змогуць атрымаць зямлю ў прыватную ўласнасць, заплаціўшы 20% ад кадастравай вартасці.

3. Грамадзяне, якія стаяць на ўліку больш за 5 гадоў і валодаюць нерухомасцю, — 50% ад кадастравай вартасці.

Згодна з указам, будаўніцтва жылля на надзеле павінна быць завершана цягам 10 гадоў з моманту яго атрымання. Гэты тэрмін можа быць працягнуты мясцовымі выканкамамі на 2 гады з улікам матэрыяльнага становішча і іншых ўважлівых прычын. Пры немагчымасці завяршыць будоўлю дома ў адведзены тэрмін, ён можа быць закансерваваны на 3 гады.

На думку Мікіты Бяляева, такое патрабаванне не адпавядае матэрыяльнаму становішчу большасці беларусаў, паколькі будаўніцтва — затратная справа. Уводзячы такія абмежаванні, варта было б прадугледзець выдачу танных крэдытаў на будаўніцтва.

Як паведаміла Алена Акуліч, начальнік аддзела загараднай нерухомасці агенцтва «Твая сталіца», указ у нейкай ступені абароніць правы добрасумленных забудоўшчыкаў.

«Шмат хто атрымліваў зямельныя надзелы, і яны заставаліся безгаспадарнымі: не выкарыстоўваліся па прызначэнні, землі пустойвалі. Той факт, што побач з добрасумленным забудоўшчыкам, які ўзводзіць дом, знаходзяцца 50% пустуючых надзелаў, безумоўна, не спрыяе асваенню інфраструктуры».

Шмат што ва ўказе застаецца незразумелым. Хутчэй за ўсё, нюансы будуць разгледжаны ў каментарах і дапаўненнях.

**АР**




**Пад уплывам крызісу ў раёнах Мінска (Тарасава, Слабада) надзелы 12—15 сотак з фундаментам патаннелі з 60 да 45 тысяч даляраў.**



**Фотафакт**







# Лукашэнка ездзіць на «блатных» нумарах

У час наведвання Лукашэнкам Маладзечна блогеры звярнулі ўвагу на нумар яго аўтамашыны. У яго не проста «блатныя» нумары, яны неўстаноўленага ў краіне ўзору. Нумар на машыне — 001 BY.

# Колькі зарабляюць беларускія спартоўцы?

Ці заслугоўваюць яны зарабляць у сотні разоў болей, чым сярэднестатыстычныя грамадзяне.



Лукашэнка лічыць, што з утрыманствам у хакеі пара канчаць.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Заробкі спартоўцаў заўсёды з'яўляюцца гарачай і дыскусійнай тэмай. Нядаўна гэтую тэму закрануў і Аляксандр Лукашэнка. «Лічу, што ўтрыманства не павінна культывавацца ў спартыўным асяроддзі. Няма чаго граху таіць: наш чэмпіянат па хакеі слабы, як і ў іншых гульнявых відах спорту. А ў нас умудрыліся па 20—25 тысяч даляраў некаторыя трэнеры і спецыялісты атрымліваць і крычаць, што ў КХЛ нашмат болей. А ці зарабій наш трэнер столькі? Адказ адназначны — не», — крычаў Лукашэнка.

Ён нібыта забыўся, што велізарныя грошы пайшлі ў беларускі хакей менавіта з ягонай падачы. Грошы маюцца, а вось скачка на якасна новы ўзровень так і не адбылося. Зборная трымаецца за кошт легіянераў з НХЛ і КХЛ, з унутранага чэмпіянату рэдка хто прыцягваецца пад яе штандары.

Увогуле, тэма заробкаў у спорце застаецца досыць закрытай. Кіраўнікі клубаў гавараць пра тое не хочуць. Маўляў, беларусы не гатовыя даведацца праўду. Самі атлеты таксама рэдка згаджаюцца прыадчыніць завесу таямнічасці.

### Ніхто не хоча гуляць за 15 мільёнаў

Тым не менш, раз-пораз заробкі спартсменаў становяцца вядомымі. Калі Лукашэнка раскрытыкаваў хакей, то пачнём з яго.

Летам вялікі рэзананс выклікалі словы генеральнага дырэктара хакейнага клуба «Брэст» Вадзіма Драчова, які сказаў: «Зусім нямнога жадаючых гуляць за 15 мільёнаў у месяц».

Варта нагадаць, што сярэдні заробак па краіне складае 1 мільён 992 тысячы. Але не найлепшыя хакеісты атрымліваюць у 10 разоў болей за выдатнага школьнага настаўніка. Гэта пры тым, што «Брэст» ніколі не браў медалёў, ды і ў лідары па фінансавых паказчыках каманда не ўваходзіць.

У жлобінскім «Металургу» прызнаваліся, што лідары каманды атрымліваюць па 8-9 тысяч даляраў. У салігорскім «Шахцёры» — 4-6 тысяч з прэміяльнымі.

**«Зоркі хакейнага «Дынама» атрымліваюць па мільёну даляраў у год. КХЛ — нятанная цацка.**

У гродзенскім «Нёмане» і наваполацкім «Хіміку-СКА» лідары зарабляюць па 3-4 тысячы ў месяц.

### Захараў лічыць, што грошы разбэшчваюць

Пры гэтым летась была ўведзеная столь заробкаў для айчыннага першынства, якая склала 100 тысяч баксаў у месяц. То бок каманда не можа выплочваць сваім хакеістам больш за гэта. Але абыходзяць дзякуючы прэміяльным.

Нават у хакейных колах гучаць прапановы заробкі зрэзаць, асабліва маладым хакеістам. Эксцэнтрычны трэнер Міхаіл Захараў лічыць: «Некаторых маладых хакеістаў загубілі грошы. Калі чалавек у 18—19 гадоў пачынае зарабляць непрыстойна многа, гэта расслабляе, хлопцы перастаюць працаваць».

### У «Дынама» атрымліваюць мільёны

Што датычыць КХЛ, то гендырэктар мінскага «Дынама» Аляксей Торбін кажа, што заробак ягоных хакеістаў — інфармацыя канфідэйцыйная.

Можна смела казаць, што атрымліваюць яны тут нямала. Некаторыя нават ахвяруюць НХЛ, каб выступаць за постсавецкія клубы. Завабіць у свае шэрагі Пелтанена, Андэрсана ці Сікору проста іменем клуба наўрад атрымаецца.

Два гады таму тагачасны кіраўнік федэрацыі хакея Уладзімір Навумаў прызнаваўся, што найвышэйшыя заробкі ў «Дынама» былі 400 тысяч даляраў у год, то бок больш 30 тысяч у месяц.

За гэты час яны істотна павысіліся. Вядома, што славацкі абаронца Ярослаў Обшут атрымлівае ў раёне мільёна за год. «Дынама» ў КХЛ — цацка нятанная.

### КХЛ і НХЛ на роўных

Нядаўна агент беларускага брамніка Віталя Коваля прызнаваўся, што варатары КХЛ атрымліваюць у дыяпазоне ад 1,5 да 3 мільёнаў даляраў.

Напрыклад, Міхаіл Грабоўскі ў канадскім «Таронта» зарабляе каля 3 мільёнаў у год. Як бачым, грошы, што атрымліваюць хакеісты ў наймацнейшых лігах свету, прыкладна сувымерныя.

Цікава, што нават галоўны трэнер хакейнай зборнай фін Хейкеля рашуча адмовіўся гаварыць пра суму кантракта. Некалі толькі канадзец Глен Хэнлан доўга ўсіх пераконваў, што працаваў абсалютна задарма.

### Ганчарэнка і Радзівонаў — па 15 тысяч

У БАТЭ заробкі меншыя, чым у хакейнага «Дынама». Пра гэта некалі са скрухай сказаў кіраўнік барысаўскага клуба Анатоль Капскі.

«У нас шараговы хакеіст «Дынама» атрымлівае болей за нашага галоўнага трэнера. Кажуць, што «Дынама» выступае ў міжнароднай лізе, але і мы таксама», — сказаў Капскі.

Дык вось, настаўнік БАТЭ Віктар Ганчарэнка і нападаючы Віталь Радзівонаў кожны месяц кладуць у сваю кішэню па 15 тысяч «зялёных». Больш за іх у БАТЭ не зарабляе ніхто.

Калі верыць былому старшыні федэрацыі футбола Генадзю Нявыгласу, то сярэднія заробкі ў нашым футболе — 2,5-3 тысячы.

Тым не менш, часам з клубаў прыходзяць звесткі аб большых заробках. Напрыклад, у «Нёмане», які ў першынстве ідзе на перадапошнім месцы, ён складае 3-5 тысяч. Гродзенскія дактары ці міліцыянты пра такія грошы могуць толькі марыць.

### У Штанге — 25 тысяч еўра

У многіх клубах кантракты заключаюцца на суму ў беларускіх рублях. Гэтым летам падчас адсутнасці даляраў і еўра ў абменніках некаторыя футбалісты нават былі вымушаныя пакінуць беларускае першынства. Так зрабілі малдаванін Фрунзэ і серб Цветкавіч.

У футболе заробкі беларусаў усё ж ніжэйшыя, чым у суседніх краінах. Напрыклад, сярэдні гулец польскай экстралігі можа разлічваць на кантракт у памеры 10 тысяч еўра ў месяц.

А вось, напрыклад, наш суайчыннік Сяргей Крывец з познанскага «Леха» — адзін з самых высокааплачваных футбалістаў Польшчы. За год ён зарабляе 250 тысяч еўра.

Сярэднія заробкі ў Чэхіі складаюць 7 тысяч еўра, у Славакіі — 3-4. На Расію ці Украіну раўняцца не выпадае, бо там футбольныя каманды часта валодаюць абсалютна шалёнымі рэсурсамі, не лічачы грошай.

Па непацверджанай інфармацыі, галоўны трэнер нацыянальнай зборнай па футболе Бернд Штанге меў у месяц 25 тысяч еўра. У «Барселоне» Аляксандр Глеб атрымліваў 80 тысяч еўра штотыдзень.

### У баскетболе грошы маленькія

Астатнім відам спорту шанцуе меней. Баскетбольны трэнер «Гродна-93» Андрэй Васілеўка нядаўна прызнаваўся, што ніколі за сваю кар'еру не бачыў заробку, большага за 550 даляраў. Баскетбол у Беларусі сапраўды знаходзіцца на перыферыі дзяржаўнай і заўзятарскай увагі.

Бліскучая плыўчыха Аляксандра Герасіменя, якая нядаўна выйграла сусветнае першынства, мае 7-8 мільёнаў у месяц. За выйгрыш «на свеце» ёй далі 5 мільёнаў. Кажа, што ў Расіі ёй абяцаюць непараўнальна болей. Плыўчыхі Алена Попчанка і Ганна Шчэрба нават змянілі грамадзянства на французскае.

Фрыстайліст Цімох Слівец перад зменай краіны, за якую будзе выступаць, зазначыў, што меў стаўку ў Міністэрстве спорту ў памеры 200 даляраў. Гэта пры тым, што ён стабільна выступаў на Алімпійскіх гульнях.

На нізкія заробкі ў бадмінтоне скардзілася і Вольга Конан, перад тым, як пачаць выступаць за Польшчу.

### У алімпійцаў залежыць ад поспеху

Заробкі большасці беларускіх алімпійцаў залежаць не толькі ад стаўкі ў Мінспорту, якія не вельмі вялікія (500—800 тысяч рублёў), але і ад удалых выступаў на міжнародных спаборніцтвах. Некаторыя выступаюць за камерцыйныя замежныя клубы, удзельнічаюць у рэгатах (веслярах).

Хаця, скажам, у нарвежскіх спартоўцаў сталага заробку няма. Ён залежыць ад рэкламы, а таксама ад даходаў федэрацыі. Біятланіст Сяргей Новікаў за «срэбра» на Алімпіядзе ў Ванкуверы атрымаў больш, чым Оле-Эйнар Б'ёрндален. Бо ў той час нарвежская біятлонная федэрацыя мела нашмат грошай.

У выніку, рэдка ў каго са зборнікаў заробак меншы за 2-3 тысячы даляраў у месяц. У алімпійскіх чэмпіёнаў і медалістаў ён дасягае пяці тысяч.

Прэзідэнцкая стыпендыя, якая выплочваецца найбольш таленавітым атлетам, складае 15 мільёнаў рублёў штомесяц. Яе, напрыклад, атрымлівае цяжкаатлет Андрэй Арамнаў.

Яшчэ адзін з найбольш прыбытковых відаў спорту — тэніс. Так, Вікторыя Азаранка за сваю кар'еру зарабіла больш за 7 мільёнаў даляраў, а Макс Мірны — больш за 9 мільёнаў. Толькі далёка не ўсім удаецца дасягнуць такіх вышыняў.

**Зміцер Панкавец**



Віталь Радзівонаў самы высокааплочваны футбаліст Беларусі. У месяц ён зарабляе 15 тысяч даляраў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Першакурсніца загінула пад коламі BMW на пешаходным пераходзе

Таццяна Грынкевіч была адзіным дзіцём у сям'і. 4 лістапада ёй **мусіла споўніцца 18**.

Позна ўвечары 27 верасня ў Мінску, каля ўніверсама «Рыга», легкавік BMW збіў 17-гадовую дзяўчыну, першакурсніцу БДУІР. Удар быў вельмі моцны, Таццяна Грынкевіч памерла на месцы.

Міліцыя яшчэ высветліць акалічнасці трагедыі, а пакуль поўнай яснасці няма. Сведчанні відавочцаў разыходзяцца. Паводле папярэдняй версіі, студэнтка пачала пераходзіць вуліцу на зялёны сігнал святлафора, а заканчвала ўжо на чырвоны. Нібыта ўсе машыны яе прапусцілі, а 21-гадовы кіроўца BMW-520 не заўважыў студэнтку і паехаў на сваё зялёнае святло. Кіроўца быў цвярозы.

Таццяна была адзіным дзіцём у сям'і. Так здарылася, што яе бацька пакінуў сям'ю. Ён не ведаў пра трагедыю і не трапіў на развітанне з дачкой. Пахавалі дзяўчыну ў родных Івацэвічах.

У арганізацыі пахавання дапамог ліцэй, які яна закончыла з адзнакай (Таццяна перамагала на алімпіядах па фізіцы — ад раённых да рэспубліканскіх). На сайце роднага ліцэя яе прозвішча знаходзіцца ў раздзеле «Найлепшыя з найлепшых».

У БДУІР Таццяна вучылася па спецыяльнасці «Інфарматыка і тэхналогіі праграмавання». Смерць дзяўчыны ўзрушыла яе аднагрупнікаў і выкладчыкаў. Група студэнтаў ездзіла на пахаванне. Цяпер разам з выкладчыкамі яны збіраюць грошы на дапамогу Жанне Іванаўне, маме Таццяны.

Адна з выкладчыц напісала пра загінуўшую студэнтку на форуме: «Да трагедыі з групай 152004 мы правялі толькі 6 першых заняткаў па матэматычным аналізе. Танечка мне запомнілася ўсмешлівай, мілай і сціплай, са светлай душой дзяўчынай, у той жа час вельмі старанней, здольнай і зацікаўленай студэнткай. Такой яна назаўжды застанецца ў маёй памяці».

**Сямён Печанко**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Трагедыя ў Жлобіне: 9-гадовая дзяўчынка загінула пад коламі Land Rover



Яна **не дайшла да дому** 300 метраў. Маці аднесла дачку з месца здарэння на руках.

27 верасня ў Жлобіне на пешаходным пераходзе пад коламі аўто загінула 9-гадовая дзяўчынка. Здарылася гэта ўвечары. Дзеці пераходзілі вуліцу на нерэгуляваным пешаходным пераходзе. Аўто ў першай паласе прапусцілі іх, а 56-гадовы кіроўца Land Rover Discovery не спыніўся. Ад моцнага ўдару дзяўчынка памерла на месцы. Маці дзяўчынкі была ў моцным шоку. Відавочцы расказваюць, што яна забрала дачку з месца здарэння і на руках аднесла дамоў. Нейкі час яна не аддавала дзяўчынку на экспертызу. Дзяўчына была апошнім дзіцём у сям'і, мама нарадзіла яе ў 42 гады.

**СП**

## Праз тры гады хочуць апраўдаць школьніка, што расстраляў групу моладзі

У Рэдакцыю звярнуліся мінчане Павел Юркевіч і Стас Алексяенка. У 2008-м яны разам з двума сябрамі сталі **ахвярамі нападу** на вуліцы.

З пнеўматычнага пісталета іх расстраляў 17-гадовы школьнік. Цяпер, праз 3,5 года, адвакат асуджанага спрабуе даць справе «задні ход». Маладыя людзі баяцца, што на лаве падсудных могуць аказацца ўжо яны.

Павел са Станіславам расказалі пра вечар 5 красавіка 2008. У кампаніі сяброў яны вярталіся дадому ад Цнянскага вадасховішча. Каля аўтобуснага прыпынку на іх напалі два чалавекі. Пачалася бойка. Адзін з нападаючых выхапіў пнеўматычны пісталет і пачаў страляць па кампаніі. А пасля нападнікі збеглі.

Маладых людзей адвезлі ў бальніцу. Двух давялося апераваць, каб дастаць кулі, якія трапілі ў твар, грудзі, рукі (Павел паказаў фотаздымкі з бальніцы, на якіх доктар апрацоўвае раны). Напісалі заяву ў міліцыю. Але суд адбыўся толькі праз некалькі месяцаў. Падазраваных не маглі знайсці. І толькі аднаго з іх, каго хлопцы ведалі ў твар як жыхара аднаго з імі двара, асудзілі.

Гэта быў Спартак Тамеян. Увесь гэты час ён знаходзіўся ў Расіі. Як заявіў на судзе, з'явіўся ў Беларусі адразу, калі даведаўся, што яго шукаюць. Тады высветлілася, што Спартак ужо быў асуджаны на ўмоўны тэрмін за аналагічнае злачынства. І тэрмін яшчэ не скончыўся. Ён прызнаў сваю віну ў нападзе на групу моладзі. Прычыну здзейсненага патлумачыў тым, што нібыта хлопцы яго абразілі. На што ён адказаў гвалтам.

Спартак засведчыў, што не ведае другога нападніка. Ён нібыта проста дапамагаў яму адбівацца. Трэба адзначыць, што і да сёння яго так і не знайшлі. Тамеян заявіў, што пісталет, з якога страляў, выкінуў. А набыў яго нібыта для самаабароны: маўляў, шмат агрэсіі да яго было як да прадстаўніка нацыянальнай меншасці. Асудзілі 17-гадовага Тамеяна па ч. 3 арт. 339 КК РБ (хуліганства) на 5 гадоў турмы.

Цяпер Спартак на волі. Вярхоўны Суд адмяніў усе ранейшыя судовыя пастановы ў адносінах да яго — пачаўся новы працэс. У судзе Тамеян сведчыць, што хлопцы збілі яго палкамі. Хаця ніякіх дакументаў аб пабоях у яго няма. У Паўла з сябрамі, акрамя фотаздымкаў з бальніцы, маюцца і даведкі аб траўмах.

Павел сказаў, што на судзе цяпер з'яўляюцца сведкі, якіх не было на месцы здарэння. Павел жа з сябрамі выступаюць на судзе ў якасці пацярпелых. Але, па яго словах, усё ідзе да таго, што могуць апынуцца на лаве падсудных. А адвакат сказаў, што ў выпадку апраўдання Тамеяна дапамагчы хлопцам не зможа.

Маладыя людзі вельмі занепакоены ходам працэсу — іх хвалюе ўласная бяспека. На судзе былі агучаны іх дадзеныя: нумары тэлефонаў, адрасы. А бацька Спартака падчас перапынку аднаго з пасяджэнняў пачаў фатаграфаваць адваката і пацярпелых, не зважаючы на іхнія пратэсты.

На чарговым судзе, які пачаўся 19 верасня, Спартак адмовіўся ад сваіх ранейшых паказанняў. Нібыта падчас допыту пракурорам той у пратаколе ўсё няправільна запісаў. Да 11 кастрычніка ў працэсе абвешчаны перапынак.

**Сяргей Макарэвіч**

## Чатыры раёны Мінска былі без электрычнасці

Прычына — аварыя **на паветранай лініі**.

У нядзелю, 2 кастрычніка, больш за чатыры гадзіны не было электрычнасці ў чатырох з дзевяці раёнаў Мінска: Першамайскім, Савецкім, Заводскім і Партызанскім.

Былі абясточаны бальніцы, жылыя дамы, адміністрацыйныя будынкі, крамы. Не хадзіў наземны электратранспарт. З перабоямі працавала мабільная тэлефонная сувязь. У абясточаных шматпавярхоўках спыніліся ліфты і падача вады.

Паводле сталічнага МНС, на паветранай лініі здарылася аварыя, у выніку якой у 8.28 адбылося адключэнне падстанцыі «Падлесная» і як наступства ўсіх яе спажыўцоў.

Ратавальнікі пры дапамозе генератараў падалі электрычнасць у 1-ю гарадскую клінічную бальніцу, дзіцячы дом № 4; халадзільныя ўстаноўкі 6-й гарадской клінічнай бальніцы, дзе захоўваецца плазма крыві; рэанімацыйнае і аперацыйнае аддзяленне дзіцячага хірургічнага цэнтра, дзе ў той момант знаходзілася 10 дзяцей, чацвёра з якіх у цяжкім стане.

Таксама, паведамляе МНС, у выніку адключэння адбылося спыненне трох трамвайных і чатырох тралейбусных маршрутаў грамадскага транспарту, трох ваданасосных станцый другога пад'ёму, 21 ліфта з людзьмі ў жылых дамах.

**Паводле БелаПАН**

## Фура пратараніла легкавік з чатырма навучэнцамі каледжа

Двое 17-гадовых пасажыраў «Опеля» **загінулі на месцы**.

На 200-м кіламетры аўтатрасы Мінск — Гомель фура пратараніла легкавы аўтамабіль з чатырма навучэнцамі каледжа, паведаміла старшы інспектар па асаблівых даручэннях УДАІ МУС Беларусі Ганна Банадык. Трагедыя адбылася 30 верасня пасля апоўдня. 46-гадовы грамадзянін Украіны, кіруючы грузавіком «Рэно-420» з паўпрычэпам, заехаў у легкавы аўтамабіль «Опель Кадэт», што прытармазіў ля паварота. У выніку ДТЗ двое 17-гадовых пасажыраў «Опеля» загінулі на месцы. Яшчэ адзін 18-гадовы ліцэіст з адкрытай чэрапна-мазгавой траўмай дастаўлены ў бальніцу. 19-гадовы кіроўца легкавога аўтамабіля сур'ёзна не пацярпеў. Усе хлопцы ў «Опелі» — навучэнцы аграрна-тэхнічнага каледжа ў Красным Беразе.

**БелТА**

# Адноўленае гняздо Яна Булгака

**Прадпрымальнік Уладзімір Кветка адбудоўвае Асташын, радавое гняздо знакамітага фатографа Яна Булгака.**

Пра такіх кажуць: чалавек-аркестр. Уладзімір Кветка — уласнік будаўнічай фірмы. Другі год ён адбудоўвае выкупленую ў дзяржавы сядзібу ў Асташыне. Колісь яна належала класіку фатаграфіі Яну Булгаку. Прадпрымальнік плануе зрабіць тут музей і гатэль. Каб даведацца падрабязнасці гэтай гісторыі, мы наведаліся ў Карэліцкі раён.

### У Некрашэвічах усё па-старому

Дарога да Асташына пралягае праз Некрашэвічы, адкуль родам Уладзімір Макей. Ад леташняй камандзіроўкі карэспандэнта «НН» на радзіму кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта тут мала што змянілася — да Некрашэвічаў па-ранейшаму даводзіцца трэсціся не адзін кіламетр па гравійцы.

Сядзіба Булгакаў з'яўляецца на вочы нечакана. Аўто нырае ў засень дрэваў, што атуляюць разрэзанае дарогай возера, і вось у прагале справа на вас нібы насоўваецца тройка камяніцаў. Бліжэйшы да дарогі дамок адблісквае навюткімі вокнамі.

### Марыў пра гісторыю, стаў будаўніком

Уладзімір нарадзіўся ў суседняй з Асташынам вёсцы Унехава. Дарэчы, як і Ян Булгак, у пачатку кастрычніка, толькі на 102 гады пазней. Бацькі працавалі ў калгасе, а ён з маленства цікавіўся гісторыяй, пісаў вершы. Пры гэтым ладзіў і з тэхнікай: у 10 класе сабраў сапраўдны трактар, які і цяпер працуе. Марыў паступіць на гістфак. Але школьнікам перанёс інсульт, шмат хварэў. Бацькі адгаварылі яго паступаць далёка ад дому. Пайшоў у Навагрудскі сельгастэхнікум на эканаміста. Потым адвучыўся ў Мінску ў БАТУ. Адпрацаваўшы эканамістам у суседнім калгасе 10 гадоў, пайшоў на вольны хлеб. Цяпер ён уласнік невялікай будаўнічай фірмы, якая дае працу двум дзясяткам чалавек. Некалькі чалавек з брыгады па вечарах і ў выходныя дапамагаюць з рамонтам на сядзібе.

Жонка працуе ў вясковай бібліятэцы. Кветкі гадуюць 10-гадовага сына.

### Для сур'ёзных людзей

Гаспадар паказвае найбліжэйшы да дарогі будынак, які перарабляе пад дом для гасцей. Улазіны будуць у снежні. На першым паверсе дзве залы. Большая будзе агульным пакоем адпачынку. У меншай, з камінам, абкладзеным кафляй смарагдавага колеру, размесціцца сталовая.

На другі паверх вядзе драўляная лесвіца. Тут дзве спальні. Большая — з відам на возера.

Спускаемся ў склеп. Раней тут была кузня, цяпер — більярд. У передпакоі будзе міні-бар.



СЯМЁН ПЕЧАНКО

Першымі аднавілі былыя гаспадарчыя пабудовы. Зараз гэта будуць гасцявыя дамы.

**Булгакі—Грабоўскія—Жывіцкія—Кветкі**

Сям'я Яна Булгака пасялілася ў маёнтку каля Асташына ў 2-й палове XIX ст. Ян жыў тут да 1905, потым з'ехаў да родных пад Стоўбцы. Маёнтак перайшоў да графа Грабоўскага, які займаў суседнюю сядзібу. У 1922 граф прадаў маёнтак братам Жывіцкім. Гэтая сям'я валодала сядзібай да 1939. Па вайне былая сядзіба належала калгасу. У 2009 сядзібу выкупіў Уладзімір Кветка.



Галоўны сядзібны дом згарэў у 1916-м.

**Асташын**

Вёска Асташын — адна з найстарэйшых на Карэліччыне. Упершыню згадваецца ў 1428. Паселішча належала вялікаму князю літоўскаму Вітаўту. У розныя часы Асташынам валодалі Астрожскія і Чартарыйскія.

У другім будынку сядзібы Уладзімір плануе зрабіць банкетную залу для вяселляў і ўрачыстасцяў. Да гэтага яшчэ далёка, як і ў выпадку з трэцім будынкам, дзе гаспадар, «калі хопіць жыцця», адчыніць невялікі гатэль. Яшчэ далей стаіць зруб будучай лазні.

### «Я зразумеў, што так не павінна быць»

Як жа Уладзімір наважыўся на такую няпростую справу? «Я заўзяты паляўнічы. Неаднойчы прыходзіў са свайго Унехава сюды. Адзін раз зайшоў у гэтыя дамы, у склеп», — расказвае ён. Вакол ляжалі гурбы смецця, бітай цэглы. І тады ён падумаў, што так не павінна быць. Ён даўно захапляўся ўмельствам продкаў будаваць на вякі, выбіраць месца пад жытло. Уладзімір загарэўся выкупіць сядзібу і аднавіць.

Доўга думаў, пралічваў. Разумеў, што лёгка і хутка здзейсніць задуманае не ўдасца. Адна з мараў Кветкі — стварэнне тут музея фатаграфіі. Як-ніяк — сядзіба Яна Булгака! Увесну, разам з крызісам, пачаліся праблемы з грашыма, таму пакуль планы з музеем ён адклаў. «Хачу зрабіць усё як след, а не халтуру на хуткую руку».

### Раней умелі будаваць

У будынку, дзе гаспадар задумаў зрабіць гатэль, сцены раней ацяпляліся. Цэгла вывалілася, і тыя дзіркі-люфты чарнеюць сажай. Пажарны інспектар быў уражаны, зрабіўшы неабходныя замеры: «цёплыя» сцены, складзеныя ў 1930-я так, што і сёння адпавядаюць усім стандартам бяспекі.

Ідзём у гаспадарчыя пабудовы. Былая сыраварня, збудаваная «за Польшчай», уражвае таўшчынёй сценаў і каванымі жалезнымі рамамі ў вузкіх, бы байніцы, вокнах.

Гаспадар расказвае, што вялікую частку выдаткаў склала добраўпарадкаванне тэрыторыі. Вывез горы смецця, высек кустоўе, бур'ян. На вызваленай тэрыторыі мерыцца зрабіць аўтастаянку, дзіцячую пляцоўку і вялікі вальер. «Пасялю страусаў», — усміхаецца ён.

### Усім не спадабаешся

Людзі розныя, кажа Валодзя, усім не дагодзіш. Калі ён заявіў пра жаданне набыць сядзібу, мясцовы фермер-сусед адразу кінуўся ў сельсавет з патрабаваннем зладзіць конкурс. Канкурэнт чакаў пастановы, згодна з якой мог набыць сядзібу за адну базавую велічыню. Але дамы ўсё ж прадалі Кветку.

Потым была эпапея з возерам. Яно падзеленае насыпной дарогай. Уладзімір арандаваў бліжэйшую да сядзібы частку. Пачысціў, каб можна было купацца, запусціў рыбу. І гэтым зноў перайшоў дарогу суседу, які хацеў узяць у арэнду другую палову возера. Але па дакументах возера праходзіць як адзін вадаём. «Я спілаваў пару дрэваў на беразе, то ён да Мінска дайшоў, каб мяне аштрафавалі», — кажа Валодзя.

Цяпер у возеры плаваюць карасі, амуры, карпы. Мясцовыя не адразу пачалі плаціць за рыбалку, давялося «прымаць меры». Бліжэйшы да сядзібы бераг ён даглядае: укапаў лавы, зрабіў прычал для лодкі і катамарана.

У аддаленым куточку возера водзяцца качкі і белыя чаплі. Там жа — матачнік. Каб малькоў не турбавалі, каля берага ў вадзе плавае вецце.




СЯМЁН ПЕЧАНКО

Будаўнік Уладзімір Кветка вяртае жыццё сядзібе Яна Булгака.

### «Уважаемый Господин Володя!»

У Асташын наведваюцца нашчадкі былых гаспадароў сядзібы з роду Жывіцкіх. Калі дом яшчэ стаяў безгаспадарны, напісалі на франтоне аднаго з будынкаў сваё прозвішча. Яны і перадалі Уладзіміру выявы сядзібы XIX—пачатку XX стст., неабходныя, каб ведаць, як аднаўляць Асташын.

Уладзімір даведаўся, дзе знаходзіўся ўласна дом Яна Булгака, разбураны ў часе Першай сусветнай вайны. У лісце былая гаспадыня, пані Ірэна Хухля з Вроцлава, дзякуе «уважаемому Господину Володе» за вяртанне жыцця іх колішняму дому. Згадваючы гэтыя словы, Валодзя расказвае: у першы год рамонту, калі накрылі дах, акурат над надпісам Zywicki буслы зрабілі гняздо. Жыццё вяртаецца сюды.

**Сямён Печанко,**
**Асташын—Мінск**



**Яну Булгаку — 135**

Ян Булгак нарадзіўся 6 кастрычніка 1876 у Асташыне. Скончыў гімназію ў Вільні. Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце. У 1905 ягонай жонцы падарылі фотаапарат. Падарункам зацікавіўся Ян. Гэта быў пачатак яго як аднаго з найвядомейшых фатографаў тагачасных Беларусі і Польшчы. У 1912 адчыніў фотаатэлье ў Вільні. Пазней заснаваў Польскі і Віленскі фотаклубы.

Вядомы як майстар пейзажнага фота. Працы Булгака захоўваюцца ў Вільні і Варшаве, невялікая частка — у Мінску.

Аўтар кніг «Мая зямля» (1919), «Эстэтыка святла» (1936), «Дваццаць шэсць гадоў з Рушчыцам» (1939), «Край дзіцячых гадоў» (1942), прысвечаная Навагрудчыне. Памёр у 1950 у Варшаве.

# Здрадзіў дзеду? Атрымай крызіс

або Калі скончацца нашы праблемы. Піша **Наталка Бабіна**.



**Наталка Бабіна**

Пісьменніца. Аўтарка кніг «Крыві не павідна быць відна» і «Рыбін горад». Жыве ў Ждановічах пад Мінскам.

### Ксеракс для золата

Анекдот: «Сядзіць за сталом кампанія. Адзін кажа:

*— Нада ізабрэсці машыну ўрэмені, вярнуцца ў дзевяностыя, накупіць дзяшовых кітайскіх часоў і прадаць тут у нас па цяперешнім цэнам.*

Другі гаворыць:

*— Не, нада ізабрэсці такой ксеракс, каторый ксерыл бы не ізабражэнія, а прадметы. І ксерыць золато, ксерыць, ксерыць...*

Трэці, самы галоўны, сіпатым голасам, кажа:

*— Ну што, гаспада міністры, есць ішчо прэдлажэнія па вываду страны із крызіса?»*

Раз дайшла справа да ксеракса для золата, дык, хоць я і не міністр, выкажу і свае *прэдлажэнія*.

### Якая розніца паміж Украінай і Беларуссю?

Гэтым летам мне давялося двойчы пабываць ва Украіне. Цудоўная краіна. Не, там, канешне, поўна праблемаў. Але... Сёння Украіна зусім не тая бядачка, якой пнецца маляваць яе вобраз БТ. Заможныя сучасныя камяніцы за прыгожымі платамі, чыстыя вуліцы, паўсюль кветкі, смачная ежа, стыльныя і танныя кавярні — а галоўнае, людзі. Усмешлівыя, поўныя годнасці, спакойныя. Твары іх няўлоўна, але выразна адрозніваюцца ад твараў грамадзян РБ. У чарговы раз перасякаючы памежпераход Макраны, я задумалася: а чаму? У гэты час украінскі памежнік пажадаў мне «*щасливої дороги*», а да машыны са словамі «*добрый день, паспортный контроль*» падышоў наш. Вось ён, адказ! Ляжыць на паверхні. Зямля абапал мяжы тая самая, лясы такія самыя, бульбу людзі капаюць аднолькава, грошы зарабляюць аднолькава — а мовы ў іх розныя! У іх — свая, ад дзядоў, у нас — не свая. Наплявалі мы на дзядоў, прынамсі, на іх мову.

Вось вам і тлумачэнне ўсіх нашых бедаў, у тым ліку і крызісу.

Не верыце? Дык задумайцеся самі.

Адзін узмах крылаў матылька мае незваротны ўплыў на гісторыю ўсяго свету — а тут такая моцная і раптоўная дзея: масавая змена мовы. Мільёны людзей зрабілі гэта на працягу жыцця аднаго пакалення. Гэта не магло не адлюстравацца на ўнутраным свеце кожнага, хто — з тых ці іншых прычынаў — так зрабіў. Гэта не магло не адлюстравацца на ладзе жыцця і, у рэшце рэшт, на тым, што называюць «калектыўным несвядомым»...

Ясна, што сувязь тут нелінейная, але што ёсць — стапудова.

Менавіта тут карані нашых (краіны) няўдач, нашага крызісу.

І нават не хочацца — калі ўвогуле магчыма — тлумачыць гэта словамі. Сэнс жыцця, соль жыцця — не ў сферы слоў, і гэта — упэўненая — добра адчувае кожны.

Захаваць мову сваёй зямлі — гэта такая ж фундаментальная задача кожнага чалавека (жанчыны), як нарадзіць дзіця, пабудаваць дом, пасадзіць дрэва.

У добрай будучыні Украіны ў гэтым сэнсе я ўпэўненая.

Людзі Украіны падобныя да людзей.

А што з Беларуссю? Да каго падобныя беларусы? Ці не да пластыкавых манекенаў з умантаваным гукаімітатарам з дыстанцыйным кіраваннем?

### «Дык мы ўжо з ім вешаемся!»

Мая сяброўка Аксана — з тых атлантаў ды карыятыдаў, што на сагнутых руках трымаюць неба беларускай мовы: паўсюль і ўсюды (нават пад наркозам у радзільні) гаворыць яна толькі па-беларуску. У чарговы абедзенны перапынак у кафетэрыі замаўляе блінчык з вяндлінай і селядзец пад футрам. Прадавачка фыркае, а жанчына ў чарзе за Аксанай кажа: «*Что вы от неё требуете говорить по-белорусскі? У нас даже президент по-белорусскі не говорит!*» — «Па-першае, я не патрабую гаварыць, а разумець беларускую яна павінна па законе. А па-другое, калі прэзідэнт пойдзе вешацца, вы таксама за ім пойдзеце?» — «*Так мы уже с нім вешаемся!*»

Залатыя словы!

Ужо як ні стараўся прэзідэнт «усіх абняць, пацалаваць, на руках насіць» (цытата па TengriNews, Казахстан) — а на табе, маеш: ужо да залатога ксеракса справа дайшла і да ўсеагульнай нянавісці. А чаму? Вось менавіта таму!

З-за зламанага ўнутранага стрыжня.

З-за адмовы ад мовы, на якой гаварыла маці.

З-за няўмення адчуць галоўнае.

### Глабалізацыя-шмабалізацыя

Бывае, ад, прабачце, інтэлектуалаў, чуеш: «Какая может быть беларуская мова в век глобалізації?»

Але глабалізацыя нас зжарэ насуха, калі мы будзем гаварыць па-расейску.

Калі вернемся да мовы дзядоў — глабалізацыя нас пагладзіць па галоўцы і выдасць прэферэнцыі. Вось чаму любімае мною БАТЭ прадула «Барселоне»? Як па мне, прычына ясная: бо «Барселона» кантактуе са светам па-каталонску, а БАТЭ пакуль не хапае рашучасці гаварыць са светам на роднай мове!

### «Гэля, кажы, што рабіць!»

Жыву я ў, прабачце, аграгарадку Ждановічы. Раней гэта была такая вёска Патрэба. І ляжала яна прыкладна ў цэнтры рэгіёна, на гаворках якога і вырасла літаратурная беларуская мова. Вельмі прыгожую, аўтэнтычную беларускую («яна будзе мне казала», «ён быў паехаўшы») можна пачуць тут ад старых. Людзей маладзейшых першабеларускамоўных (то бок тых, хто першым звяртаецца па-беларуску) у нашай Патрэбе — адзінкі. Але на беларускую ўсе рэагуюць больш чым прыязна.

Людзі і навіны сцякаюцца штодня ў краму «ДарОрс». І тут на фоне пануючай рускай не-не, а пачуеш: «Гэля, кажы, што рабіць!», «Кухаль яму дай!», «Алеська, я буду праз хвіліну!»

Патэнцыял мовы = патэнцыял будучыні ёсць.

Таму — кажы, Гэля, кажы.

«Пашчу адкрывай і гавары», — кажу я сабе, і гавару па-беларуску ў аграгарадку Ждановічы, і гавару па-ўкраінску ў Заказанцы.

Калі бліжэйшая беларуская школа для людзей з сэрца беларускасці — Ратамкі — знаходзіцца за 25 км, то гэта катастрофа. Калі людзі возяць першакласніка з Ратамкі ў гэту школу — то гэта абуджае надзею...

### Паспрабуйце пагаварыць з дзедам

Паспрабуйце зараз у думках пагаварыць з дзедам.

На ягонай мове.

Можаце? Ці не? Ці не зразумее вас дзед на вашай абшчепонятной?

Толькі тады, калі кожны з нас зробіць высілак і загаворыць на мове дзеда (бабы) — скончыцца крызіс. Вось галаву даю на адсячэнне!

Калі кожны беларус, чый дзед гаварыў па-беларуску, — загаворыць па-беларуску, чый мувіў па-польску, — будзе гаварыць па-польску, а чый дзед гавэндаў па-ўкраінску, — загаворыць так — СКОНЧАЦЦА НАШЫ ПРАБЛЕМЫ.

А чый дзед гаварыў па-расейску — хай прыслухаецца тады да нас.

> **Калі бліжэйшая беларуская школа знаходзіцца за 25 км, гэта катастрофа. Калі людзі возяць першакласніка ў гэту школу — гэта абуджае надзею…** »

# Патаемнае спачуванне ад Лукашэнкі

Піша **Сяргей Навумчык**.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка перадаў спачуванні сям'і былога дэпутата Вярхоўнага Савета Галіны Георгіеўны Сямдзянавай з прычыны яе смерці.

Такая інфармацыя павінна была б колькі дзён таму з'явіцца ў афіцыйных СМІ.

Але не з'явілася.

Пры тым, што такое спачуванне сапраўды было Лукашэнкам выказана.

У пахаванні Галіны Сямдзянавай мяне вельмі здзівіла, што да яго арганізацыі спрычыніўся Мінгарсавет, а цырымонію развітання наведаў віцэ-спікер т.зв. «парламента». У якой іншай краіне тое было б нормай, але не ў Беларусі, бо тут самая нявінная сімпатыя чыноўніка да апазіцыі будзе імгненна каштаваць яму кар'еры.

Але цяпер усё патлумачылася: віцэ-спікер прыйшоў, каб перадаць сям'і спачуванне ад Лукашэнкі.

...На пахаванне Галіны Сямдзянавай прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек — акрамя родных і блізкіх, былыя калегі па дэпутацкай Апазіцыі БНФ 12 склікання: Станіслаў Шушкевіч, Уладзімір Някляеў — і, здаецца, больш нікога з так званых вядомых асоб. І лічаныя адзінкі «невядомых».

Пахавалі Галіну Сямдзянаву на Паўночных могілках.



Можа быць, і Лукашэнка падумаў, што калі-небудзь і ён...

ФОТА З АРХІВА УЛАДЗІМІРА КАРМІЛКІНА

### Дзве смерці

За некалькі дзён да гэтага ў Мінску развітацца з капітанам хакейнай зборнай прыйшло каля дзесяці тысяч чалавек, пахавалі яго на Усходніх могілках, на алеі, дзе знайшлі спачын выбітныя асобы нацыі.

Гібель хакеістаў выклікала ва ўсіх горкія пачуцці, вельмі шкада маладых жыццяў, спачуваеш іх жонкам і дзецям. Што да шматтысячнага развітання, дык зразумела, што ніхто людзей не заганяў, яны ішлі самі, і ў гэтым была любоў і павага да трагічна загіблага. Зразумела таксама, што ў любой краіне смерць вядомага спартоўца альбо эстраднай зоркі выклікае больш розгалас, чым пісьменніка альбо дзяржаўнага дзеяча (параўнайце рэакцыю на смерць Майкла Джэксана, Сэлінджэра і Эдварда Кенэдзі ў ЗША).

Але ўлада павінна трымаць дзяржаўныя прыярытэты.

Мне цяжка назваць краіну, дзе б спартовец, хай і вельмі знакаміты і заслужаны, быў пахаваны побач з выбітнымі творцамі. (Хаця б таму, што праз 15 гадоў будуць пытацца: « А хто гэта такі?» Сёння ў Мінску ўжо мала хто скажа, хто такая Галіна Сямдзянава, але праз 100 гадоў, калі Беларусь будзе існаваць як незалежная дзяржава, кожны школьнік назаве прозвішча дэпутаткі, якая першая ўнесла Бел-Чырвона-Белы сцяг у залу парламента).

І дзе палітык, якая самым непасрэдным чынам спрычынілася да ўтварэння гэтай краіны, была б пахаваная ў іншым месцы (калі толькі на тое не была яе воля ці воля родных).

У Беларусі, такім чынам, дзяржаўны прыярытэт — што заўгодна, але не Незалежнасць.

**Галіна Сямдзянава**

(28.02.1947—18.09.2011) нарадзілася ў Гдыні (Польшча), у сям'і ўдзельнікаў вайны. У 1990 абраная народным дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Увайшла ў Дэпутацкую групу БНФ. Удзельнічала ў распрацоўцы і прыняцці дзясяткаў заканадаўчых актаў. Першая ўнесла ў залу ВС бел-чырвона-белы сцяг. У часе выбарчых кампаній была назіральнікам ад БНФ у Цэнтрвыбаркаме.

### Каўбасныя бунты не мяняюць сістэму

Тэма смерці Галіны Сямдзянавай на сайце радыё «Свабода» ў лічаныя хвіліны ўзнялася на першае месца ў рэйтынгу найбольш чытаных матэрыялаў і трымалася там двое сутак — значыць, прачыталі тэксты некалькі тысяч чалавек. На пахаванне прыйшлі адзінкі. Не самае лепшае параўнанне, але прыгадваюцца суды за 19 снежня. Сотні каментароў на сайце «Хартыі»: «За Саннікава адкажыце!», «Скажыце, як і чым дапамагчы Усу?», « Трымайся, Статкевіч, мы вызвалім цябе, хутка перамога!» І — паўпустыя залы на судовых працэсах.

Не будзе ніякай хуткай перамогі. А могуць быць — доўгія гады жыцця пры Лукашэнках (пакуль пры адным, потым — пры другім, а пазней і пры трэцім ). З зарплатай у 5 даляраў, як на Кубе, з засцярогай вымавіць што-небудзь «не тое», як у Іране, альбо можа нават і з неабходнасцю браць дазвол на наведванне сябра ў суседнім доме, як у Паўночнай Карэі.

Магчыма, шмат хто не пагодзіцца, але абапіраюся на ўласныя назіранні: незадаволенасць узроўнем жыцця ў беларусаў ніколі не вылівалася ў станоўчыя палітычныя перамены, каўбасныя бунты ніколі не мянялі сістэму да лепшага, і толькі калі закранаўся нацыянальны гонар — дамагаліся лепшага (параўнайце ў 1991 годзе статысячны страйк, які скончыўся нічым, і жнівеньскія пратэсты, якія прывялі да Незалежнасці). Гонар жа не можа існаваць без павагі да ўласнай гісторыі.

### «Нешта чалавечае ў Сашы засталося»

Зараз — пра Лукашэнку.

Звычайна пра спачуванні кіраўніка дзяржавы паведамляе ягоная прэсавая служба. Я даведаўся пра гэта ад былога калегі па Апазіцыі БНФ, які быў на пахаванні. «Бачыш, нешта чалавечае ў Сашы ўсё ж засталося», — дадаў ён, і я не спрачаўся. Падобныя ацэнкі далі і іншыя, з кім давялося абмяркоўваць гэтую тэму. Здавалася б, інфармацыя пра спачуванне з прычыны смерці палітычнага апанента была б на карысць Лукашэнку. Але замоўчванне сведчыць, што Лукашэнка якраз і баіцца выявіць публічна такія чалавечыя пачуцці, бо падначаленымі гэта адразу будзе ўспрынята як праява слабасці, а там недалёка і да страты павагі.

Добра засвоіў Лукашэнка і ўрок жніўня 91-га, калі Галіна Сямдзянава перакрыла шлях да мікрафона першаму сакратару ЦК Малафееву, дэпутаты сагналі яго з трыбуны — і праз хвіліны камуністычная парламенцкая большасць «здалася».

Ну і, канешне ж, недапушчальная і публічная згадка імёнаў апанентаў: іх не было, няма і не будзе (паказальна, што пра смерць Сямдзянавай не паведамілі афіцыйныя СМІ — што яшчэ раз выяўляе іх цалкам прапагандысцкі характар).

### Не палітычны разлік

У сучаснай Беларусі замоўчваецца ўсё, што мае дачыненне да абвяшчэння Незалежнасці ў 1991 годзе.

Увогуле, выцясненне з палітычнай арэны былых дэпутатаў Апазіцыі БНФ, якія маюць вопыт шматгадовай заканадаўчай дзейнасці, ды і ўвогуле вопыт «вялікай палітыкі» — тэма не артыкула, а цэлай кнігі, у якой «адмоўнымі персанажамі» могуць быць не толькі прадстаўнікі ўлады. Самі ж былыя дэпутаты ў Беларусі пастаўленыя на мяжу чыста фізічнага выжывання. Ведаю, што некаторым прапаноўвалі напісаць заяву на імя Лукашэнкі — былі б і праца, і пенсія, як у былых дэпутатаў «палаткі», на ўзроўні міністра. Але — ніхто не пагадзіўся, ніхто не напісаў. Не была выключэннем і Галіна Сямдзянава, а блізкія да яе людзі заявілі журналістам, што не апошнюю ролю ў пагаршэнні яе здароўя адыграла цкаванне з боку КДБ...

Такім чынам, у самім спачуванні нельга знайсці палітычны разлік.

Тады што трэба тут шукаць? Чалавечае?

### Што рухала Лукашэнкам?

У гады сумеснага дэпутацтва ў ВС Лукашэнка з Сямдзянавай не сябраваў, яна жорстка крытыкавала Лукашэнку і тады, калі ён стаў прэзідэнтам. Ён ніколі не дапамог Сямдзянавай і ў апошнія гады, калі даводзілася жыць на маленькую пенсію, і ў апошнія месяцы, калі Галіна згасала ад невылечнай хваробы. Адкуль увогуле нейкія сантыменты ў чалавека, спецслужбы якога сёння рэанімавалі спосабы катаванняў з арсенала НКВД?

Канешне, смерць равеснікаў заўсёды прымушае прыгадаць, што ніхто не вечны, і ты таксама, і з узростам гэтае адчуванне робіцца ўсё больш канкрэтным.

Можа быць, і Лукашэнка падумаў, што калі-небудзь і ён... Не, прэзідэнтам ён будзе заўсёды, а вось хадзіць па зямлі... Тут нейкая крыўдная супярэчлівасць паміж бестэрміновасцю прэзідэнцтва і недаўгавечнасцю жыцця, якую хочацца вырашыць у выпадку аднаго канкрэтна ўзятага чалавека, а менавіта — сябе самога. Ці не гэта прымусіла Сталіна ў свой час стварыць інстытут па выпрацоўцы «эліксіру даўгалецця»? Бо калі ты як Бог (а губернатары кажуць, што нават вышэй за Бога) — дык павінен жыць вечна, інакш не бывае... А вось раптам нешта нагадвае, што, аказваецца, бывае.

А можа быць, наведала Лукашэнку настальгія па маладосці, калі фотакарэспандэнт зафіксаваў яго ра-зам з Пазняком і Сямдзянавай у фае ВС, настальгія па тых вясновых днях 90-га, калі хваля народнага ўздыму вынесла дырэктара саўгаса пад тэлекамеры ў Авальную залу?

### Самае светлае адчуванне

Калі можна было выйсці да мікрафона і сказаць рэзкія словы ў твар першай асобе рэспублікі і самому пахаладзець ад уласнай смеласці, бо яшчэ пазаўчора за такія словы пагналі б з працы, але секундны страх змяняецца іншым адчуваннем, і гэта — адчуванне свабоды. І разуменне, што вось цяпер, тут, менавіта ты пашырыў гэтую зону свабоды, хай і нязначна, але пашырыў, і слухала цябе па трансляцыі ўся Беларусь.

А потым з кампаніяй такіх жа маладых дэпутатаў, ідзеш па праспекце да гатэля, па правым тратуары. Менавіта па правым, бо па левым — толькі МУС ды КДБ, а па правым, каля кавярні «Вясна», крама — і вялізная чарга (зусім не за мінералкай), і гэтая чарга расступаецца, і мужыкі ў імгненні ставяць вас перад прадаўшчыцай (хто памятае даўжыню тых чэргаў — ацэніць ступень ахвяры): «Саступаем дэпутатам! Валянцін, Саша, Сяргей, дацiскайце Дземянцея! А ці можна верыць Кебічу?».

Вось пачуцці, якія ва ўсіх нас спляліся ў адно ў тыя летнія дні 90-га: свабода, рызыка і яшчэ — вера, што наперадзе нешта добрае, яшчэ лепшае... Можа быць, гэтае адчуванне перспектывы і было самым светлым для ўсіх нас — для Лукашэнкі таксама...

### Каб не пачулі

І такіх адчуванняў ужо не зловіш ні гульнёй у хакей, ні на селектарнай нарадзе, дзе можна даціскаць і нават абражаць каго заўгодна, і халуі будуць пакорліва выслухоўваць, апусціўшы галовы. Можна прыйсці ў тую ж Авальную залу, і дэпутаты будуць напружана слухаць цябе хоць шэсць гадзінаў. Можна і Пуціну з Мядзведзевым паслаць плявок — абатруцца, геапалітычныя інтарэсы важней за крыўды. Усё можна — вось толькі свабоды няма. Напрыклад, ужо не пройдзеш па вясновым праспекце, і да чаргі без ахоўнікаў не падыдзеш (спецслужбы метадычна дакладаюць, што пра цябе гавораць у тых чэргах).

**Усё можна — вось толькі свабоды няма.**

І самае горшае: нельга сказаць, што хочаш. А калі вельмі хочаш — даводзіцца казаць патаемна, каб не пачулі.

Чым не турма?

І наперадзе — магчыма, гады беспадзельнай улады, але — ніякіх светлых перспектыў.

**Сяргей Навумчык**

Нар. у 1961. Журналіст і палітык. Дэпутат Вярхоўнага Савета ў 1990—1996. Сябра Дэпутацкай групы БНФ. У 1996 разам з Зянонам Пазняком эміграваў з краіны. Атрымаў палітычны прытулак у ЗША. Жыве ў Празе. Намеснік Старшыні Рады БНР. Працуе на радыё «Свабода».

## КАНЦЭРТЫ



### Neuro Dubel

**11 і 18 кастрычніка ў «Графіці» (зав.Калініна, 16) а 19-й** — Neuro Dubel.

### Разбітае сэрца пацана

**10 кастрычніка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — «Разбітае сэрца пацана». Гурт спявае на трасянцы і мае эпатажны кардэбалет з дзвюх дзеўчын.

### Hurts

**11 кастрычніка ў мінскім Палацы спорту** — канцэрт гурта Hurt» (Вялікабрытанія) — музычнай сенсацыі 2010 года. Музыкам варожаць славу новых Pet Shop Boys альбо Depeche Mode. Іх кліп Wonderful Life, зняты музыкамі за 25 фунтаў стэрлінгаў, паспеў стаць адной з легенд поп-музыкі. **Пачатак канцэрта а 20-й.**

### Рок па вакацыях

**21 кастрычніка а 19-й у клубе Re:public (вул. Прытыцкага, 62)** — канцэрт «Рок па вакацыях». Бяруць удзел: Drum ecstasy, Akute, «Касіяпея», No comment band, Yellow brick road, «Пятля прыстрасці», ZM 99, Kull orchestra.

### Алег Хаменка

**7 кастрычніка ў кавярні «Містраль» (вул. Валадарскага, 22)** — канцэрт Алега Хаменкі. **Пачатак а 20-й.**

### Аляксей Шадзько

**10 кастрычніка ў ДК МТЗ** выступаюць Аляксей Шадзько і кампанія. Пры ўдзеле Уладзіміра Ткачэнкі, Ігара Леўчука, Аляксандра Ванькевіча, Канстанціна Гарачага, Анатоля Каляды. **Пачатак а 19-й.**

### Фестываль Юрыя Башмета

**6 кастрычніка ў Філармоніі (пр. Незалежнасці, 50)** прагучаць творы беларускага кампазітара К.Яськова, напісаныя спецыяльна для фестывалю. **Пачатак а 19-й.**

**8 кастрычніка тамсама** — закрыццё III Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД у рамках фестывалю. **Пачатак а 19-й.**

**10 кастрычніка ў Палацы спорту** — урачыстае закрыццё VI Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета «Класіка супраць РОК».

### «Тройца» ў Брэсце

**16 кастрычніка ў Брэсцкай абласной філармоніі** — этнатрыа «Тройца» з прэзентацыяй новага альбома «Зімачка». **Пачатак а 16-й.**

### Галасы чароўных флейт

**8 кастрычніка ў Оперы** — «Галасы чароўных флейт». **Пачатак у 19.30.**



# Міжнародны фэст паветраплавальнікаў

Ад 7 да 9 кастрычніка на беразе Плешчаніцкага водасховішча пад Лагойскам адбудзецца Міжнародны фэст паветраплавальнікаў.

### Ронда Ларсан і гурт «Вентус»

**11 кастрычніка ў Філармоніі** — канцэрт Ронды Ларсан (флейта) і гурта «Вентрус» (ЗША). Ронда родам з Мантаны, у сваёй творчасці яна камбінуе джаз, кельцкую, народную, класічную і духоўную музыку. **Пачатак а 19-й.**

### Сьлёнск

**14 кастрычніка ў Палацы Рэспублікі** — выступ ансамбля песні і танца «Сьлёнск» (Польшча). **Пачатак а 19-й.**

### Князь Мышкін

**14 кастрычніка ў кавярні «Містраль» (вул. Валадарскага, 22)** — «Князь Мышкін». **Пачатак а 21-й.**

### Памяці Паварoці

**9 кастрычніка ў Музычным тэатры** — канцэрт памяці славутага італьянскага тэнара Лучана Паварoці 'O Sole Mio. **Пачатак а 19-й.**

### Класік-авангард

**5 кастрычніка ў Малой зале філармоніі імя Р.Шырмы** ансамбль саліастаў «Класік-авангард» прадстаўляе канцэртную праграму «Музычныя Масты Еўропы». Мастацкі кіраўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў Уладзімір Байдаў. **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Галаграфія-2011

**Да 1 снежня ў выставачнай зале Акадэміі навук** працуе Міжнародная выстава мастацкіх галаграм «Галаграфія-2011», дзе можна ўбачыць лепшыя творы мастацкай галаграфіі з Беларусі, Аўстраліі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Грэцыі, Іспаніі, Канады, Кітая, Літвы, Нідэрландаў, Партугаліі, Расіі, Румыніі, ЗША, Турцыі, Украіны, Францыі, Швецыі і Японіі. Пад промнем святла ў «чорным квадраце» ажывуць аб'ёмныя партрэты людзей, шэдэўры Эрмітажа, старажытныя рэлівіі, фантастычныя краявіды і касмічныя караблі, «Тэрмінатар» і «Аватар»…

### Фота Зоф'і Хаментоўскай

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Зоф'я Хаментоўска «Паміж кадраў. Фатаграфіі з 1925—1945 гадоў». Выстава нават арскім спосабам прэзентуе творчасць фатографа Зоф'і Хаментоўскай, якая нарадзілася і звязана з Палессем. Амаль увесь матэрыял прадстаўлены ўпершыню.

### Дні чэшскай культуры

**7 кастрычніка ў Музеі сучаснага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** адкрываецца выстава чэшскага скульптара Отмара Олівы. Выступіць вакальны гурт «Трубадуры». **Пачатак а 17-й.**

**12 кастрычніка ў Музеі гісторыі Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 6а)** пачынаецца фотавыставы «Музей Кампа ў Празе» і «Паэтмастацтва Веранікі Рыхтаравай», а таксама адбудзецца дэманстрацыя відэафільмаў пра архітэктурную спадчыну Чэхіі. **Пачатак а 17-й.**

### Кола агню

**Да 15 кастрычніка ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава па выніках IX Міжнароднага пленэра па кераміцы «Артжыжаль» майстар-клас» «Кола агню».

### Кірмаш хэндмэйду

**8 і 9 кастрычніка ў Гістарычным музеі** — кірмаш хэндмэйду, на якім вас чакае аграмадны выбар твораў ручной работы. Гэта аўтарская лялька, ропіс па шоўку, пляценне з бісера, вышыванне стужкамі, вязанне, гліна, валянне вовны, фетр, піраграфія….

### Кераміка і парцаляна Кітая

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** да 24 лістапада працуе выстава «Кераміка і парцаляна Кітая». Калекцыя дае ўяўленне аб развіцці керамічнага майстэрства Кітая. Вы можаце ўбачыць керамічныя вырабы дыстанцыі Мін і Цын, а таксама сучасную кітайскую кераміку.

### На нашым хітрым свеце ўсяляк жыве народ

**Да 9 кастрычніка ў Літаратурным музеі Янкі Купалы** працуе выстава твораў фатографа Сяргея Мілюхіна «Нявыдуманая Афрыка». На работах аўтара вы ўбачыце сонца, што ўстае над экватарам; белыя плямы саляных азёр; туман, які белай паласой аддзяляе зямлю ад высокіх гор; эфіопскіх земляробаў і цішыню, якую парушае толькі плёскат крылаў пеліканаў ды фырканне бегемотаў.

### Уваход праз дызайн

**Да 7 кастрычніка ў студыі «Адліга» (пр.Незалежнасці, 37а)** адбудзецца шырокафарматны паказ альтэрнатыўнага беларускага плаката і вялікі гаражны распродаж дызайнерскіх аб'ектаў і сувеніраў «Уваход праз дызайн». **Адкрыццё 23 верасня а 19-й.**

### Выстава Руслана Вашкевіча

**У Мастацкім музеі да 10 кастрычніка** працуе выстава твораў мастака Руслана Вашкевіча «Музей». Экспануюцца больш за дзвацаць твораў аўтара, новыя суседзяць з добра вядомымі старымі.

## ТЭАТРЫ

### 6 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Кармэнсюіта. Дывертысмент з балета «Шчаўкунок»

**Оперы і балета** — «Іяланта»

**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

### 7 кастрычніка

**Лялек** — «Вянчанне»

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 8 кастрычніка

**Лялек** — «Мыйдадзір»

**Лялькі і актора «Карабас»** — «Прыгоды тыграняці Р-Р-Р»

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

**Оперы і балета** — «Спартак»

**Беларускай драматургіі** — «Неба ў дыяментах»

### 9 кастрычніка

**Лялек** — «Вясёлы цырк»

**Оперы і балета** — «Чароўная Музыка»

**Купалаўскі** — «Не мой»

**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 10 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Паўлінка»

**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»

### 11 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Трубадур»

**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 12 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Сільфіда»

**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»

### 13 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

### 14 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»

**Беларускай драматургіі** — «Жанчыны Бергмана»

**Лялек** — «Чайка. Спроба прачытання»

### 15 кастрычніка

**Лялек** — «Піпі Доўгаяпанчоха»

**Беларускай драматургіі** — «Воўк марaплавец»

**Оперы і балета** — «Князь Ігар»

**Купалаўскі** — Translations

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць»

### 16 кастрычніка

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

**Купалаўскі** — «Хам»

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### Польскі тэатр

**8 кастрычніка** ў Доме Масквы (вул. Камуністычная, 86) а 20-й — «Я» ў выкананні тэатра Wiczy.

**10 кастрычніка** ў Новым драматычным тэатры (Чайкінай, 16) а 19-й — «Фэйс-кантроль» у выкананні «Тэатра восьмага дня».

**23 кастрычніка** ў Палацы спорту а 19-й — «Сляпыя» ў выкананні тэатра «Кто».

**25–26 кастрычніка** ў музычным тэатры а 19-й — «У нас усё добра» ў выкананні тэатра «ТР Варшава».

**27 кастрычніка** ў Палацы культуры прафсаюзаў а 19-й — «Браты Карамазавы» ў выкананні тэатра Provisorium.

**28 кастрычніка** тамсама а 19-й — «Голад Кнута Гамсуна» ў выкананні тэатра Invitro.

**29 кастрычніка** тамсама а 19-й — «48/4» у выкананні Люблінская тэатра танца.

**11 лістапада** ў Палацы спорту а 19-й — «Планета Лем» у выкананні тэатра Biuro podróży.

## КІНО

### Слёзы Дэніэла Крэйга

**Dream House**
ЗША, 2011, каляровы, 92 хв.
**Рэжысёр:** Джым Шэрыдан
**Ролі выконваюць:** Дэніэл Крэйг, Рэйчэл Уайз
**Жанр:** Трымценнік з элементамі містыкі
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

Пасяховы літаратар з жонкай і дзвюма дачушкамі засяляецца ў домік, куплены ў ціхім гарадку. Неўзабаве зляканыя дзеці паведамляюць, што бачылі нейкага чалавека за вокнамі. Бацька дазнаецца, што пяць гадоў таму ў доме адбылося забойства, а злачынца дагэтуль на волі…

Нядаўні Джэймс Бонд, Дэніэл Крэйг, грае супрацьлеглую ролю — разгубленага чалавека. Фільм — жанравае кіно, якое нечакана пераключаецца з меладрамы ў містыку, а потым у дэтэктыў. Але пачуццяў і слёзаў Дэніэла Крэйга болей, чым патрабуе просты сюжэт.

**Андрэй Расінскі**



# Сэксолаг: «Колькасць пацыентаў пасля крызісу павялічылася»

Сэксолаг — для Беларусі **прафесія рэдкая**. Гутарка з псіхатэрапеўтам сэксалагічнага аддзялення Гарадскога псіханеўралагічнага дыспансера Васілём Шаўляковым.



Сярэдні ўзрост пачатку палавога жыцця ў Беларусі — 15 —20 год. Цяпер гэта мяжа ссоўваецца на пазней, бліжэй да 17 —23 гадоў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### У Беларусі менш за дзясятак сэксолагаў

**«Наша Ніва»: Ці шмат у Беларусі сэксолагаў?**

**Васіль Шаўлякоў:** Наколькі мне вядома, недзе восем-дзевяць. У нас сэксолагам з'яўляецца толькі той, хто атрымаў гэту адукацыю за мяжой. Але ёсць некалькі спецыялістаў, псіхатэрапеўтаў і псіхолагаў, якія таксама непасрэдна працуюць з сэксалагічнымі пацыентамі. Напрыклад, я з'яўляюся «доктарам-псіхатэрапеўтам-сэксолагам», бо працую ў галіне псіхатэрапіі з сэксалагічным профілем, аднак спецыяльнасці сэксолага не маю.

**НН: На дэфіцыт пацыентаў не скардзіцеся?**

**ВШ:** Пацыентаў хапае, хоць да сэксолага людзі ідуць з пэўнай перасцярогай, калі ўжо сапраўды «прыпячэ». Гэта спецыяльнасць тычыцца інтымных момантаў жыцця чалавека, агалошванне якіх можа прынесці больш шкоды, чым сама праблема.

**НН: Ці паболела ў Вас пацыентаў пасля крызісу?**

**ВШ:** Нашмат павялічылася. Усё, што дадае ў наша жыццё яшчэ больш стрэсавых фактараў, наўпрост сказваецца на псіхалагічным і сэксуальным здароўі.

### Тыповы пацыент — чалавек з высокім інтэлектуальным узроўнем

**НН: Апішыце, калі ласка, партрэт тыповага пацыента.**

**ВШ:** Гэта пераважна высокаадукаваны чалавек, здольны зразумець, што ў яго ў прынцыпе ёсць праблема. На жаль, чым ніжэйшы ўзровень культурнага развіцця, тым менш людзі звяртаюць увагу на свае расстройствы, спасылаючыся на сямейныя праблемы, загружанасць на працы, стомленасць, непаразуменне з сябрамі і іншае.

**Сэкс —гэта найпрасцейшы рэфлекс, як хадзьба, харчаванне. І таму ад яго трэба проста атрымліваць задавальненне.**

**НН: Часцей звяртаюцца мужчыны?**

**ВШ:** Раней пераважалі мужчыны. Зараз жа суадносіны паміж гендарамі выроўніваюцца. Жанчыны займаюць усё больш актыўную ролю ў сямейных узаемаадносінах, пачынаюць задумвацца, што і ў іх бываюць праблемы.

**НН: На што часцей за ўсё скардзяцца мужчыны?**

**ВШ:** Найбольш распаўсюджаныя праблемы — адсутнасць эрэкцыі і заўчасная эякуляцыя.

Аднак на фоне гэтага часта «вылазяць» праблемы ўзаемаадносінаў з жанчынамі.

**НН: А жанчыны?**

**ВШ:** Самая распаўсюджаная праблема — зніжэнне лібіда (сэксуальнага жадання), часцей за ўсё на фоне неспрыяльных адносінаў з партнёрам. На другім месцы — анаргазмія (адсутнасць аргазму). Бывае, што адсутнасць аргазму і не выклікала ў жанчыны нейкага дыскамфорту, яна была шчаслівая са сваім мужчынам. Але вось нехта сказаў, што павінен быць заўсёды аргазм. Бліскучы і прыгожы. І жанчына задумваецца, чаму ва ўсіх ёсць, а ў яе няма. Гэтыя думкі часцей за ўсё і прыводзяць жанчын на прыём да сэксолага. Таксама бывае, што аргазм здараўся з папярэднім партнёрам, а з цяперашнім мужчынам — не. Адсюль узнікаюць сумневы: а ці «ейны» гэты партнёр?

**НН: Ці звяртаюцца да Вас маладыя пары?**

**ВШ:** Так. Раней пераважалі пары з багатым вопытам сумеснага жыцця, якія паспелі «нажыць» пэўныя праблемы. Зараз часта звяртаюцца мужчыны і жанчыны, якія пражылі разам паўгода, год. Пры гэтым яны прыходзяць менавіта з сэксалагічнымі скаргамі, затым, часцей за ўсё, плаўна пераходзяць да псіхалагічных.

### «Не стаўцеся да сэксу як да камп'ютарнай праграмы»

**НН: Якія парады Вы можаце даць беларускім парам?**

**ВШ:** Усё індывідуальна. Адзінае, што магу сказаць, калі ўзнікаюць сэксульныя праблемы ў партнёраў любога ўзросту, то часцей за ўсё асновы «няякаснага» сэксу палягаюць глыбей і звязаны з такімі ж «няякаснымі» адносінамі, непаразуменнямі між партнёрамі.

**НН: Ці бывае, што партнёры не падыходзяць адзін аднаму «анатамічна»?**

**ВШ:** Такое бывае рэдка і часцей за ўсё становіцца вырашаецца між партнёрамі.

**НН: Якія памылкі дапускаюць маладыя людзі ў ложку?**

**ВШ:** Самая частая праблема маладых людзей у тым, што яны ставяцца да сэксуальнай блізкасці як да нейкага складанага механічнага працэсу ці камп'ютарнай праграмы. Абсалютна не думаючы, што сэкс гэтаксама адносіцца да прасцейшых рэфлексаў, як хадзьба, харчаванне. І таму ад яго трэба проста атрымліваць задавальненне. І заўсёды памятаць, што ідэальна бывае толькі ў нашых уяўленнях і фантазіі.

Мужчына, які аднойчы пацярпеў фіяска, але дастаткова зацыкліўся на гэтым, пачынае кантраляваць працэс сваёй эрэкцыі і надалей. І пры наступным зрывах можа вырашыць, што ён «недзеяздольны» ці нават імпатэнт, хаця фізіялагічна ён будзе цалкам здаровы.

**НН: Які сярэдні ўзрост уступлення ў сэксуальнае жыццё ў нашай краіне?**

**ВШ:** Цяжка сачыць за гэтымі дадзенымі, бо да сэксолагаў звяртаюцца людзі, пачынаючы з 18 год (на жаль, дзіцячай сэксалагічнай службы мы не маем). Па тых дадзеных, якія спрабавалі збіраць статыстычна, сярэдні ўзрост пачатку палавога жыцця ў Беларусі — 15 —20 год. Цяпер гэта мяжа ссоўваецца на пазней, бліжэй да 17 —23 гадоў.

**НН: Найбольш распаўсюджаны від кантрацэпцыі — перарваны палавы акт?**

**ВШ:** Раней — так. Цяпер, да радасці не толькі сэксолагаў, але часцей за ўсё гінеколагаў і ўролагаў, асноўны від кантрацэпцыі — прэзерватыў і гарманальныя кантрацэптывы. Хаця перарваны палавы акт нікуды не знік.

**НН: Колькі сэксуальных партнёраў маюць беларусы ў сярэднім за жыццё?**

**ВШ:** Дакладных статыстычных дадзеных няма. Але калі браць паказчыкі бліжэйшых суседзяў (якія не вельмі моцна адрозніваюцца ад нашых), то гэта каля 5 у мужчын і 3—4 — у жанчын. Гэта пацвярджаюць і дадзеныя даследавання, якое праводзілася сярод студэнтаў старэйшых курсаў універсітэтаў Мінска.

**Аксана Рудовіч**

**Васіль Шаўлякоў**

Нарадзіўся ў 1982. Урач-псіхатэрапеўт сэксалагічнага аддзялення Гарадскога псіханеўралагічнага дыспансера. Скончыў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Стаж працы ў сэксалагічным аддзяленні — 2 гады. У вольны час грае на барабанах у адным мінскім рок-гурце. Жанаты.






**Ежа**

## У Даніі ўвялі падатак на тлустыя прадукты

Падаткам будуць абкладацца алей, малако, сыр, піца і іншыя прадукты, калі яны ўтрымліваюць больш за 2,3% насычаных тлушчаў.

Некаторыя людзі пачалі набываць такія прадукты з запасам напярэдадні павышэння цаны на іх, у той час як некаторыя вытворцы назвалі падатак «бюракратычным кашмарам».



Самі чыноўнікі выказалі надзею, што новы падатак дапаможа жыхарам абмежаваць спажыванне шкоднай тлустай ежы. Аднак некаторыя навукоўцы заявілі, што соль, цукар і рафінаваныя вугляводы з'яўляюцца больш небяспечнымі для здароўя, і змагацца найперш трэба з салодкім, а не з малаком.

**Бі-Бі-Сі**


PHOTO BYMEDIA.NET

1 кастрычніка ў Нацыянальнай школе прыгажосці прайшоў фінальны этап XII фестывалю сучаснага мастацтва і авангарднай моды «Мамант».


PHOTO BYMEDIA.NET

Падчас гульні Лігі чэмпіёнаў БАТЭ — «Барселона» на поле выбег заўзятар. Свой учынак ён патлумачыў тым, што хацеў дапамагчы барысаўцам. На той момант беларусы безнадзейна прайгравалі. У выніку 25-гадовы мінчук атрымаў 10 сутак адміністрацыйнага арышту.


«БИЗНЕС-СТОЛИН»

У вёсцы Белавуша (Столінскі раён) на рацэ Гарынь мясцовых жыхар Сяргей Сень злавіў спінінгам сома вагой 51,5 кілаграма.



У самым цэнтры Віцебска назіралі рэдкую птушку — вялікую белую чаплю. Яна, не звяртаючы ўвагі на людзей, лавіла рыбу.



## Анекдоты

* * *

З КДБ у Мінгандлю прыходзіць папера. З просьбай зняць з продажаў у салонах смартфоны наступных мадэляў, бо ў іх утрымліваецца опцыя «змена рэжыму».

* * *

— Алё, гэта міністр замежных спраў Мартынаў? Запрашаем Вас на саміт Усходняга партнёрства!

— Ізвініце, у меня Дажынкі.

* * *

Кіраўнік краіны сваё слова трымае! Цэны на бензін будуць павышацца раз у квартал, сказаў ён. Таму месяцы ў Беларусі цяпер доўжацца ад сямі да дзесяці дзён.

* * *

Нягледзячы на крызіс, беларускія матэматыкі паабяцалі Лукашэнку ўтрымліваць лік «пі» ў межах ад 3 да 4 да канца года.

* * *

Тактыка БАТЭ зразумелая: яны вымотваюць працоўнікаў на полі, каб потым лёгка адабраць іхнія майкі.

* * *

Лідары па колькасці насельніцтва ў свеце: 1. Кітай, 2. Індыя, 3. Facebook, 4. ЗША, 5. Інданэзія, 6. Twitter, 7. Бразілія...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Беларускі тэатральны гурток пад загадам Буйніцкага не змарнаваў мінулага лета**: гурток гэты аб'ехаў шмат мястэчак і вёсак Беларусі, даваў там тэатральныя прадстаўленні. Гурток заглянуў у такія куткі нашай старонкі, як Слуцк, Ляхавічы, Нясвіж, Мінск, Капыль, Полацк, Свянцяны, Нова-Свянцяны, Дзісна, Вілейка, Ашмяны, Смаргонь і т.д.

**«НН». №39. 1911.**

**«Наша Ніва»: Ці верыце Вы ў магчымасць маральнай палітыкі?**

**Андрэй Саннікаў:** Веру. Лічыцца, што палітыка — брудная справа. Менавіта таму палітыкі павінны адстойваць маральныя прынцыпы. У беларускай сітуацыі мы можам казаць пра маральнасць і немаральнасць палітыкі даволі акрэслена. Улада, якая будуе таталітарнае грамадства, адстойвае прынцып амаральнасці, а апазіцыя, прыхільніца дэмакратыі, намагаецца трымацца маральнасці. Менавіта дзякуючы апазіцыі ў грамадстве захоўваецца магчымасць маральнага выбару.

**«НН». №40. 2001.**


**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7560. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 04.10.2011.
Замова № 4772.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12